

НАР·КАМ·ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР.

# ПЛУГ






1926
МЕНСК

ВЕРАСЕНЬ №9

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня Верасень 1926 г. № 9



## „Дзень Ураджаю"—грамадзкае сьвята

Маладое грамадзкае сьвята „Дзень Ураджаю" ў краіне Саветаў штогод пускае глыбей і глыбей свае карэньні ў новы пасьлярэволюцыйны быт вёскі. Толькі тры гады таму назад „Дзень Ураджаю" амаль насіў яшчэ характар сьвята камсамольскай моладзі. Але год за годам „Дзень Ураджаю" набывае сабе шырока-грамадзкае аблічча. І гэта зусім зразумела. Восень кожнага году ў нашай земляробскай краіне нясе новы ўраджай. І гледзячы на тое, які мы здымаем ураджай, так шырока і сьмела і залежна ад яго мы разгортваем у бліжэйшы час свой гаспадарчы і культурны рост.

Калі-б нашаму сялянству пры самай натужнай працы і разам з працай агрономаў, коопэрататараў, с.-г. гурткоў і інш. і пры цэлым шэрагу розных мерапрыемстваў Савецкай улады ў галіне сельскай гаспадаркі ўдалося штогод уздымаць ураджай на 2—3 пуд. з дзесяціны, то пры 3 мільёнах 200 тыс. дзес. засеваў у БССР гэта становіцца значным дасягненьнем [1]).

Дзеля паасобных гаспадароў ці с.-г. адзінак, вядома, гэта мажлівая рэч. Мы ведаем цяпер шмат сялянскіх гаспадарак, якія павялічваюць свой ураджай значна хутчэй. Іх ураджаі, як і ўраджай дасьледчых станцый, ужо стаяць на ўзроўні ўраджаяў Заходняй Эўропы—120-150 п. Сюды належаць нашы гаспадары-культурнікі, якіх зараз па БССР ужо зарэгістравана звыш 300. Такі-ж культурны ўзровень маюць і гаспадаркі сялян-дасьледчыкаў і амаль усе гаспадаркі, якія штогод прэміруюцца на розных с.-г. выстаўках, некаторыя саўхозы, камуны, арцелі і г. д Але ўсё ж такіх гаспадароў і гаспадарак толькі адзінкі, а звыш 600 тыс. сялянскіх гаспадарак БССР пасоўваюцца наперад вельмі малымі крокамі. Шмат прычын перашкаджала іх росту, але нельга сказаць, што яны застануцца на месцы. Усе прыёмы і способы гаспадараваньня, якімі падымалі свае ўраджаі дасьледчыя станцыі, сяляне-дасьледчыкі, добра вядомы агрономам і нашым савецкім і грамадзкім працаўнікам. За гэтыя способы вядзецца агітацыя. Іх вывучае амаль кожны.

Вось чаму з кожным годам да гэтых культурных прыёмаў гаспадараваньня пераходзяць сотні і тысячы новых гаспадароў. Калі два-тры гады таму назад шмат каго палохалі шматпольле, пасёлкі, пасеў кораньплодаў, асушка балот, здабыча торфу і г. д., то зараз сяляне самі агітуюць за гэта. Самі гаспадары займаюцца палепшаньнем насеньня або скаціны, цікавяцца лепшым вырабам поля, рознымі ўгнаеньнямі і г. д.

Пры ўсіх гэтых асаблівасьцях разьвіцьця і росту сельскай гаспадаркі нашым агрономам, коопэратарам, сялянству і ўсёй савецкай гра-

---

[1]) Перспэкцыйны пяцёхгадовы плян НКЗ мяркуе штогодні рост ураджаю 4 асноўных расьлін у 2 проц., а да вайны ўраджаі ў сярэднім павялічваліся на 1,32 проц. (лічбы Аддзелу с.-г. экономіі і статыстыкі НКЗ С. Т.).

мадзкасьці ў „Дзень Ураджаю“ лепш чым калі, трэба падагульніць посьпех і рост сельскай гаспадаркі за бягучы год.

Тут павінен адзначыцца ня толькі посьцех сялян-адзінак, якія сваёй стараннасьцю і лепшай тэхнікай ў гаспадарцы дасягнулі, напрыклад, добрага ўраджаю кораньплодаў, кармовых траў, павялічылі ўдоі кароў і г. д., але цікава, што зрабіла і сялянская колектыўная праца ў галіне мэліорацыі, культуртэхнікі, насеннай справе, жывёлагадоўлі. Цікава, што зрабіла сялянства коопэрацыйным шляхам, бо коопэрацыйны мэтод працы і гаспадараваньня ў некаторых галінах, дробную гаспадарку робіць як-бы буйной. Дробная гаспадарка разам з другімі выкарыстоўвае дарагія машыны, завадзкога быка і г. д.

Пры ўсім гэтым у „Дзень Ураджаю“ выўляюцца посьпехі і дасягненьні і буйных гаспадарак *(саўхозаў, комун, арцелей, дасьледчых станцый і г. д.*

Падлічваючы ў „Дзень Ураджаю“ дасягненьні сельскай гаспадаркі, неабходна з імі азнаёміць шырокае кола грамадзян і гаспадароў-сялян. Трэба, каб добры вопыт ці прыклад аднаго гаспадара стаў вядомым сотням. Толькі высьвятленьне дасягненьняў сельскай гаспадаркі, як і дасягненьняў у прамысловасьці, дапаможа ясна іх выявіць і пакажа, што трэба рабіць далей, куды накіроўваць і сілы, і сродкі гаспадара.

Выяўленьне нашых дасягненьняў *у коопэрацыі, гандлю, крэдытаваньні, прамысловасьці, лясной гаспадарцы* і г. д. вельмі цікава, бо ўсё гэта разам стварае пэўныя ўмовы для разьвіцьця сельскай гаспадаркі. А культурная сельская гаспадарка цесна звязана з гэтымі галінамі дзяржаўнай гаспадаркі; адна-ж яна адарванай расьці ня будзе.

Усё гэта гавора, што „Дзень Ураджаю“ ня можа абмяжавацца толькі сельска-гаспадарчай ці прамысловай выстаўкай, адной лекцыяй на с.-г. тэму ці спэктаклем.

*„Дзень Ураджаю“ — наша грамадзкае сьвята, сьвята сельска-гаспадарчай культуры, новага быту.*

У „Дзень Ураджаю“ усе за падлік нашых дасягненьняў у будаваньні новай вёскі, за культурны рост краіны Саветаў.

Сьц. **Тупяневіч.**

---

**Па I Усебеларускаму конкурсу на лепшага гаспадара** Цэнтральная Камісія канчае сваю працу. К „Дню Ураджаю“ ўсе прэміі і дыплёмы будуць перасланы ў раёны для раздачы.

**Ц. Камісія.**




## Як лепш праводзіць с.-г. выстаўкі.

Ні ў якім разе значэньне сельска-гаспадарчай выстаўкі нельга ацэньваць цаною тых прэмій, якія выдаюцца як лепшыя вынікі і дасягненьні, бо гэтых прэмій усё-ж такі мала. Напрыклад, у 1924 годзе было выдана 1299 прэмій на суму 10.279 р. (па 5 акругах), а ў 1925 г. па БССР выдана 6991 прэмія на суму 23.553 руб.

Большае значэньне выстаўкі, вядома ў тым, чаму і як вучаць яе экспонаты і колькі глядачоў яна прыцягвае. Два мінулых гады тут заслугоўваюць большай увагі. Для большай зразумеласьці паказваю лічбы:

| Год | Дзе адбылася выстаўка. | Колькі выставак. | Лік экспанатаў. | | Усяго было глядачоў. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Усяго. | На 1 выст. | |
| 1924 | Аршанск. акр. | 3 | 1189 | 393 | 51.000 |
| 1924 | 6 акр. БССР. | 71 | 4871 | 69 | 105.000 |
| 1925 | па БССР. | 96 | 14082 | 147 | 253.600 |

Як бачым, у 1924 годзе сельска-гаспадарчыя выстаўкі па ліку экспонатаў яшчэ бедныя (69 экспон. на 1 выстаўку). Таксама і лік глядачоў нязначны. У 1925 годзе лік экспонатаў на выстаўках павялічваецца больш чым удвое, а лік усіх глядачоў дасягае 253.600 асоб (каля 5 проц. насельніцтва).

Калі-б пры гэтым удалося і добра організаваць выстаўкі, умела і шырока выкарыстаць іх, то яны занялі-б значнае месца ў агропрапагандзе. У такім разе выстаўка вучыць сялян лепшаму і культурнаму гаспадараваньню; выстаўка дапамагае селяніну ацаніць сваю працу і вызначыць плян на будучыну.

Цікава тут даць прыклад Смаленшчыны, дзе яшчэ задоўга да вайны працавалі агрономы і даволі шырока праводзілі сельска-гаспадарчыя выстаўкі. Дзякуючы выстаўкам, як і наогул працы агрономаў, сяляне Смаленшчыны раней, чым нашы сяляне, пачалі сеяць кармовыя травы і пераходзіць на шматпольле, больш карыстацца фосфарытам як угнаеньнем і г. д. Тут Смаленшчына мала чым адрозьніваецца ад Маскоўскай губ.

У нас-жа, дзе агрономы працуюць толькі некалькі год, сельска-гаспадарчыя выстаўкі зусім новая справа. Таксама і з організацыйнага боку нашы выстаўкі часта кульгаюць. Але гэта яшчэ ня кажа, што роля сельска-гаспадарчых выставак малая. Далёка ня так. І нашы выстаўкі ў мінулым годзе шмат дзе прайшлі з поўным посьпехам (Заслаў'е, Сьмілавічы, Шацк, Крычаў, Чэрыкаў). Шмат дзе выстаўкі аглядаліся па два-тры дні (Сьмілавічы) і там пабывала па некалькі тысяч глядачоў. Тут-жа на выстаўках гаспадары-культурнікі паказвалі свае экспонаты і тлумачылі другім, як дасягнуць такіх ураджаяў і такіх вынікаў. Такім чынам, выстаўкі былі школамі для сялян.

У гэтым годзе ў некаторых акругах выстаўкі будуць праведзены ў верасьні м-цы, а ў некаторых акругах у „Дзень Ураджаю“ 14-га кастрычніка. Але калі-б выстаўкі ні адбыліся, то пры іх організацыі, правядзеньні і выкарыстаньні трэба ўлічыць практыку і памылкі мінулых год і абавязкова дамагацца, *каб выстаўка стала масавай для сялянства.*

А практыка мінулага году гавора, што найлепш праходзяць тыя выстаўкі—

1) у організацыі якіх апрача агрономаў прымалі ўдзел усе мясцовыя працаўнікі, настаўніцтва, камсамольцы, сельска-гаспадарчыя гурткі і г. д.

2) калі выстаўка была організавана ў раёне ці ў сельсавеце—бліжэй да насельніцтва;

3) калі выстаўка адчынялася ў сьвятковы дзень або ў дзень кірмашу;

4) калі сялянскія экспонаты рыхтаваліся за два-тры месяцы;

5) калі ў час выстаўкі тлумачэньні па с.-г. экспонатам давалі самі сяляне;

6) калі выстаўка была ня толькі сельска-гаспадарчай, але і прамысловай;

7) калі на выстаўцы паказвалася праца с.-г. машын, паказваліся мінэральныя і іншыя ўгнаеньні, сэлекцыйнае насеньне і г. д.

8) калі побач з сялянскімі экспонатамі на выстаўцы выступаюць саўхозы, камуны, арцелі, дасьледчыя станцыі;

9) калі за лепшыя экспонаты прысуждаліся прэміі і тут жа выдаваліся;

10) калі на выстаўцы бывае раздача с.-г. літаратуры і лістовак, чытаюцца лекцыі лепшымі агрономамі.

Адным словам, правільная організацыя выстаўкі патрабуе ня толькі шмат сродкаў, але і шмат часу і пільнай увагі. Аднак, для жывой і здаровай грамадзкасьці вёскі і раёну гэта натуральная справа.

Агульнымі сіламі с.-г. гурткоў, с.-г. саветаў, усіх камсамольцаў, агрономаў і настаўніцтва і ў гэтым годзе, напэўна, можна будзе з'організаваць добрыя выстаўкі і галоўнае шырока іх выкарыстаць.

*Сяляне-культурнікі і сяляне-дасьледчыкі, рыхтуйце экспонаты на выстаўку!*

*Усе на выстаўку, хто хоча лепш гаспадарыць, хто хоча здымаць тры каласы там, дзе раней рос адзін.*

**С. Т.**

# Капыльскі с.-г. гурток.

Капыльскі с.-г. гурток залажыўся 1 лютага 1926 г. У яго ўваходзяць выключна дарослыя сяляне. З'арганізаваўся ён па ініцыятыве сялян і раённага агронома. Існуе гэты гурток на падставе палажэньня аб с.-г. гуртках.

Заняткі ў гуртку зімой адбываліся два разы ў тыдзень, а вясною цераз два тыдні адзін раз. Кіраўнікам гуртка і лектарам зьяўляецца райагроном Яцэвіч.

Пры заснаваньні гуртка прымаліся ў яго выключна сяляне; усяго членаў 24 чал., з іх 23 мужчыны ад 30 да 50 гадоў і адна жанчына 20 гадоў. Малапісьменных—9 чал., пісьменных—14 чал. і з сярэдняю асьветаю—1 чал.

Усе сябры гуртка беспартыйныя, вядуць самастойна свае гаспадаркі.

Капыльскі с.-г. гурток карыстаецца с.-г. літаратураю Нардома і агранамічнай бібліотэкі.

Для с.-г. гуртка заснаваны музэй, дзе гурток і праводзіць сваю працу. У с.-г. музэі маюцца: 1) Плякаты па сельскай гаспадарцы. 2) Колекцыі спосабаў барацьбы са шкоднікамі сада, гарода і поля. 3) Колекцыі ўсіх угнаеньняў, кармовых культурных траў. 4) Чатыры віды злакавых расьлін, якія зьмешаны са сьмяцьцём для паказаньня, як засьмечваецца пасеўны матэрыял. 5) Мадэль дацкай кармушкі і выцяжной трубы Мупра. 6) 30 драўляных мадэляй буйнае рагатае скаціны і коняй розных парод. 7) Гэрбарый мясцовых расьлін.

Ср дкі здабывалі з с.-г. коопэрацыі, як шэфа, і ад Нардома.

*Праца гуртка.* Праца ў гуртку вялася згодна зложанай програмы райагронома Яцэвіча. Програма ахоплівала ўсе галіны сельскай гаспадаркі. Яна складалася з поўнай увязкай экономічнага жыцьця раёна, загэтым максімум увагі жывёлагадоўлі і ральніцтву.

Тэорытычны курс праводзіўся ад 1 лютага да 15 красавіка. Займаліся два разы ў тыдзень, у сярэднім па 4 гадзіны ў дзень. Усяго прачытана агрономам Яцэвічам 20 тэорытычных лекцый з дэманстраваньнем плякатаў і мадэляй па сельскай гаспадарцы. На тэорытычную частку было затрачана 80 часоў. Практычная праца праводзілася толькі па жывёлагадоўлі з паказальным кармленьнем буйнае рагатае жывёлы, з уцяпленьнем і асьвятленьнем хлявоў. Паказальнае кармленьне праведзена ў трох сяброў гуртка.

Вясною ўсе сябры гуртка ачысьцілі бясплатна ўвесь свой пасеўматэрыял і пратравілі фармалінам зярновы пасеўматэрыял.

18 сяброў, якія маюць свае сады, зрабілі абрэзку, перакопку зямлі і апрыскаваньне жалезным купаросам. Вынікі вельмі відавочныя.

Усе сябры гуртка падсеялі ў жыта сэрадэлю. Шмат хто сеяў у папарным полі караньплоды (турнэпс, кармовыя буракі). Для распаўсюджваньня агрономічных ведаў сярод адсталых сялян, у двух сяброў гуртка заснаваны паказальныя вучасткі з караньплодамі, гародам, радковаю сяўбою і г. д.

Дзеля палепшаньня сваіх сенажацяй сябры гуртка пабаранавалі іх і пасеялі травы: купкоўку, райграс французкі і цімафейку.

Для палепшаньня ральніцтва ня толькі ў сяброў гуртка, але і наогул сярод насельніцтва ўсяго раёну з'арганізавана машыннае т-ва.

Сябры гуртка прымаюць дзейны ўдзел у выстаўках. У мінулую вясну 13 чэрвеня 1926 г. на раённай выстаўцы па жывёлагадоўлі ў

Копылі тры сябры гуртка былі прэміраваны па 10 руб. за племянных кароў і кабыл.

Усе сябры гуртка прымалі актыўны ўдзел у разьвязаньні бытавых пытаньняў. Усе зьяўляюцца сябрамі крэдытнага с.-г. т-ва, прымаюць удзел у с.-г. раённым савеце. Вырашылі пытаньне аб каранным земляўпарадкаваньні ўсяго м. Копыля і г. д. Рана вясною аднагалосную пастанову думалі завесьці паказальнае поле пад назваю „*Ленінская дзесяціна*“, але за адсутнасьцю такога вучастку ім прышлося абмяжавацца досьледамі толькі на сваім полі.

Можна сказаць, што Копыльскі с.-г. гурток хаця і малады, але дзякуючы правільнай пастаноўцы працы, ім зроблена вельмі многа. Ён палепшыў гаспадарку сяброў гуртка і гэта стала прыкладам для другіх сялян. Па прыкладу сяброў гуртка сяляне вялі барацьбу са шкоднікамі садоў і гародаў, пратручвалі і ачышчалі пасеўматэрыял і г. д. Дзеля прыкладу можна сказаць, што Копыльскі раён ачысьціў 43.339 пуд. і пратравіў 14.400 пуд. зярна.

Апісаў райагроном **П. Яцэвіч.**

---

# Некалькі слоў аб культурнай гаспадарцы „Фатынь“.

Цяжкая і неспагадная праца земляроба. Пры няспрыяючых прыродных і эканомічных умовах яна бывае яшчэ цяжэйшая.

Такім безнадзейным месцам для гаспадаркі зьўляецца Лепельшчына. Глеба там ападзоленыя супяскі і суглінкі. Добрыя шляхі зносін і рынкі адсутнічаюць. Умовы самыя неспагадныя для ўсякай культуры. Але ёсьць і ў Лепельшчыне квітучы куток, які блішчыць пры агульнай адсталасьці і някультурнасьці. Гэты куток—*гаспадарка „Фатынь“*.

Фатынь знаходзіцца ў 76 вяр. ад Віцебска і 28 вяр. ад Лепеля. Гэта гаспадарка даўно ўжо зьвяртае на сябе ўвагу, як мясцовага жыхара, так і агронома сваёю культураю, якая зьявілася дзякуючы колектыўнай працы сям'і Мароза. У кожнай галіне гаспадаркі адбіваецца гэта праца.

Галоўны напрамак гаспадаркі садова-гародны і насенны. На хутары ёсьць саду 9 дзес., больш дзесяціны школка і $2^1/_2$ дзес. гароду. Пералічанае ёсьць галоўная каштоўнасьць гаспадаркі. Дадаткам да гэтага зьяўляецца прамысловая цяпліца, парнікі і пладасушылка.

Ральніцтва таксама не забыта. На плошчы 29 дзесяцін ворнае зямлі існуе шматпольны севазварот з засевам канюшыны і асыпных расьлін.

Жывёла мясцовай пароды, добрая. Есьць вучэбна-паказальная пасека. Разводзяцца трусы. У гаспадарцы разводзяць лазу, з якой плятуць кошыкі. Куды ні глянь, усюды відзіш пільную працу.

У гаспадарцы ёсьць метэоролёгічная станцыя. Вядзецца барацьба са шкоднікамі (за апошні месяц злоўлена $5^1/_2$ тыс. мышэй). У Фатыні набіваюць чучалы птушак і розных жывёлін; зьбіраюць колекцыі кузурак і робяць другія школьныя паказальныя прылады. Усё гэта робіцца рукамі самавучак—сям'і Мароза.

Каб усё гэта зрабіць, мала аднае прыхільнасьці да працы: неабходна і веды. Сам Мароз нідзе не вучыўся. Але ён мае акрамя сваёй

працавітай сям'і дзелавітага памоцніка—*кнігу*. Досыць пабываць у Фатынскай бібліотэцы, каб зразумець прычыну Фатынскае культуры. Калі першы раз праяжджаеш праз ліпавыя прасады Фатыні, то думаеш, што ўбачыш багатую сялібу і застаешся нездаволеным, калі пабачыш старыя пакошаныя хаты, якія пакрыты саломаю.

У час маей службы ў Лепельскім павеце агрономам, я пры ўсякім выпадку зварачваўся ў Фатынь за спраўкамі: раіўся па спэцыяльным пытаньням, даставаў патрэбную кніжку, альбо здабываў цікавае насеньне, і кожны раз адчуваў вялікае здавальненьне.

Сказанае сьведчыць аб тым, якое значэньне мае гэты культурны вугалок для нашага краю. Можна зазначыць, што амаль кожны селянін Лепельшчыны што-небудзь запазычыў з Фатыні для свайго саду. Каму патрэбен пасадачны сартавы матэрыял гародніны, кожны пабываў у Фатыні.

Аграном М. Плаўскі.

---

# Дасягненьні Кастрычнікавага Мэліорацыйнага т-ва.

*(Вёска Сьвятое, Жлобінскага р.).*

20 год таму назад вёска Сьвятое перасялілася ў Жлобінскі раён, Бабруйскае акругі з Магілеўскае акругі.

Там, куды перасялілася вёска, наўкол ляжала непраходнае балота. Сяляне, што раней жылі там, баяліся і дарма браць гэта балота. Сяляне-ж вёскі Сьвятое ня спужаліся, а ўзялі ды купілі на сваю вёску дзесяцін 150 балота.

У той час тэхнікаў ня было і сяляне самі ўзяліся капаць канаўкі. Кіраваў гэтай працай селянін І. Г. Карунчык. Да 1914 г. сяляне пракапалі ўжо шмат канаў, па якіх сьцякала вада; балота стала асушацца. Праз кароткі час на балоце вады ня было, пачала расьці і трава. Праўда лугавых і бабовых траў было вельмі мала, але сяляне ўсё-ж бачылі, што карысьць ёсьць. Але ў 1914 годзе пачалася вайна, на якую забралі шмат здаровых сялян вёскі. Праца на балоце спынілася.

Ураджай траў на балоце пaступова стаў зьмяншацца і ўрэшце ўтварылася зноў балота, на якім яшчэ расьлі дуброўка балотная, вятроўнік вязалісьцевы, бабок трылісьцевы і інш.

Актыўныя сяляне ўвесь час думалі аб працы на балоце і пасьля вайны ў 1923 г. організавалі мэліорацыйнае т-ва пад назваю „Кастрычнікавае“. Усяго членаў 250 ч. Прыслалі ім тэхніка М. О Корзуна, які і памог нанова асушыць балота.

У 1925 г. пад кіраўніцтвам тэхніка Сьвярчкова на гэтым балоце быў ужо *закладзены вопыт з аўсом, каноплямі* і *выкай.* Было палажана ўгнаеньне па разьліку на дзесяціну калійн. солі 12 пуд. і тамасоўкі 24 пуд. Таксама сеялі мешаніну траў пад авёс. Траў 1 п. 15 ф. на 1 дзесяціну. Мешаніна была такая: *купкоўка, райграс французкі, канюшына швэцкая і чырвоная.* Вынікі вопыта былі вельмі добрыя; авёс даў 170 п. на дзесяціну.

Атрымаўшы такі ўраджай, сяляне ўвосень 1925 г. узаралі каля 15 дзесяцін і чакалі толькі вясны, каб хутчэй пасеяць збожжа і травы. Ї на гэты раз балота апраўдала сябе.

З 1926 г. ў таварystве ўжо налічваецца 480 членаў, але гэту працу праводзіць толькі адна вёска Сьвятое, якая вясною 26 г. засеяла 15 дзесяцін. *Пасеялі авёс, выку, выку з аўсом, травы, бульбу, пасадзілі капусту, буракі, моркву і г. д.* Вынікі да гэтага часу вельмі добрыя, але аб ураджаі гаварыць яшчэ нельга, бо ён не прыбраны.

Увосень я пастараюся апісаць прыбытак і ўраджай у пудох.

Селянін **М. Карунчык.**

---

# Гаспадарка пяці братоў Сенькаў.

*(Хутар Уборкі, Пухавіцкага раёну, Меншчына).*

Сяляне Сенькі вядуць гаспадарку па культурнаму. Жывуць яны кожны ў сваёй хаце, а працуюць найбольш колектыўна. Зямля ў іх падзеляна на шырокія палосы, што дае магчымасьць добра яе вырабляць. Папар пад жыта ў іх ня пустуе, а займаецца найбольш канюшынай, выка-аўсянаю мешанінаю. Незаняты папар не зарастае ў іх сарнякамі. Паараўшы папар, барануюць яго звычайнай бараною, а пазьней, як папар пачне зарастаць, перадзіраюць пружыноўкаю, якую купілі колектыўна ў крэдытовым таварystве. На жніва Сенькі затрачваюць мала часу, бо жнуць яны жняяркаю.

Сенажаць у Сенькаў у адным кавалку. Косяць яны яе ўсе разам і скідваюць у стагі. Калі трэба вазіць сена, то накладваюць пяць вазоў і такім чынам, дзеляць бяз шуму і спрэчак.

Будынкі будуюць больш на культурны манер. Хлявы цёплыя, сьветлыя; гумны таксама моцныя. Збожжа сваё малоцяць малатарняй і арфуюць на арфе, якая добра аддзяляе зярно ад розных сарнякоў. Вясною перад севам ярыны арфуюць насеньне ў другі раз, каб насеньне было чыстым. Жыта на насеньне абменьваюць у саўхозе.

Сенькі гадуюць завадзкую скаціну. Кожны з іх стараецца, каб выгадаваць як найлепшую жывёлу. На выстаўцы, якая адбылася вясною ў саўхозе Подблонь, Ф. Сенька атрымаў у прэмію асыпнік, С. Сенька атэстат першага разраду за гадоўлю маладняку (коняй); у трэцьцяга брата С. Сенькі ёсьць завадзкі жарабок і годны для абгулу. Сьвіньні ў іх таксама добрыя з заводу Вялень. Маладняк у Сенькаў даглядаецца добра. Яго кормяць па норме і часьцяком важаць, каб можна было пазнаць, як прыбывае скаціна ў вазе. Усе гэтыя прыклады браты Сенькі бяруць з гасп. „Вялень“.

З усіх гэтых прыкладаў відаць, што гаспадарка братоў Сенькаў на хутары Уборках даволі культурная.

**Селянін.**

---

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Чым трэба засеяць адну дзесяціну пахаці, каб замяніць 980 пудоў добрага сена.

*Кармовыя буракі.* У 1924 годзе я пасеяў чатыры кв. сажні кармовых буракоў па сьвежаму ўгнаеньню (2400 п. на дзес.). Пасеяў я іх купкамі і густа, чаму і парасьлі яны дрэнна, бо ня можна было за імі даглядаць, як трэба. Усяго на 4 кв. сажнях я атрымаў 1 п. 7 ф., бо ўраджай быў вельмі дрэнны. Але я добра навучыўся сеяць буракі на другі раз. Пасьля гэтага я стаў шукаць другога выйсьця: стаў шукаць кніжак па гэтай галіне: выпісаў газэту „*Магілеўскі селянін*“ і „*Крестьянскую газету*“. З гэтай літаратуры я шмат чаму навучыўся, ды крыху свой вопыт дапамог.

К 1925 году я глебу пад буракі ўзараў з восені і палажыў палавіннае ўгнаеньне (ня было гною на поўнае ўгнаеньне), а другую палавіну гною вывез вясною. Глебу вырабіў таксама, як і пад турнэпс. Пасеяў я 30 кв. саж. буракоў, даглядаў іх таксама, як і турнэпс. Розьніца ў пасадцы была ў тым, што 15 кв. саж. я пасеяў, а 15 кв. саж. пасадзіў расадаю, якую браў прарываючы буракі. Садзіў гэту расаду пад кол радамі (рад ад раду 12 вяршкоў, а ў радох на 10 вярш.).

Увосень я сабраў ураджай паасобна і зважыў. З 15 кв. саж. сажаных буракоў я атрымаў 21 пуд 15 фунтаў, а з сеяных 15 квадр. саж. 14 п. 26 ф.; усяго 36 пуд. 1 ф. Па разьліку на дзесяціну гэта дасьць 2940 пудоў. Кожныя тры пуды буракоў у параўнаньні па сваёй пажыўнасьці раўняюцца 1 пуду добрага сена (2940 : 3=980 п. добрага сена). Такога ўраджаю буракоў я бяруся дасягнуць на ўсякай глебе Кармянскага раёну, абы толькі мне далі падрыхтаваць глебу ўвосені.

Сёлета ў мяне засеяна буракамі 300 кв. сажняў. Угнаеньня палова паложана ўвосені, палова (за нехваткай) вясною. Ураджай пакуль што ідзе вышэй сярэдняга. Трэба адзначыць, што сёлета рост буракоў затрымала някота, але ва ўсякім выпадку я бачу, што ўраджай будзе лепш за ўраджай мінулага году.

Лічу, што ўсім пара сеяць кармовыя буракі хоць па трошку, каб навучыцца, а пасьля і болей можна сеяць. Калі селянін пасее буракі і агледзіць так як трэба, то я ўпэўнены, што на другі год ён захоча пасеяць болей. Вядома, нельга сеяць так, як сеюць большасьць сялян, зробіць градку і пасее на ёй густа ўсякай ўсячыны, а бываюць выпадкі, што і глебу дрэнна вырабіць. Такі гаспадар добрага ўраджаю ніколі не атрымае і потым гневаецца на глебу, або на ўгнаеньне. Я зусім згодзен з тымі, што пішуць: „Няма дрэннай зямлі, а ёсьць дрэнныя гаспадары“. Я гэта прыслоў‘е чуў ад добрых гаспадароў і практыка пацьвярджае яго.

Сёлета ў мяне пасеяны буракі зусім на жоўценькім пясочку, але яны ня горшыя, чым тыя што растуць на чорнай зямлі: вядома пясок трэба ўгноіць лепей, як чорную зямлю. У мінулым годзе дзеля практыкі я сеяў буракі і турнэпс на *торфяніку, падзолістай і пясчанай глебе*. Усюды яны растуць добра, абы гаспадар добра вырабіў і ўгноіў поле. Толькі торфянік і падзол вельмі баіцца сушы, а пясчаная глеба ня так яе баіцца. Загэтым, на пясчанай глебе я яшчэ ахвотней сею гэтыя расьліны. Добра яны растуць і пасьля выкі і канапель. Знойдуцца такія сяляне, што на гэта скажуць: „А што рабіць калі няма гною?“ На гэта таксама скажу, што сей караньплоды і яны табе заменяць самую лепшую сенажаць. У часопісі „Плуг“ ёсьць багата артыкулаў, якія вучаць, як атрымаць угнаеньне апрача гною: *трэба зьбіраць попел, рабіць кампостныя кучы, зьбіраць усякія гаспадарчыя адкіды, сарнякі, капаць, торф* і г. д. Вось колькі ёсьць выхадаў, каб замяніць сабе гной. Толькі трэба мець ахвоту.

Найлепшым месцам для севу караньплодаў—гэта каля сялібы; там ты можаш скарыстаць кожную свабоднаю хвіліну для дагляду за буракамі. Ад буракоў-жа каровы значна прыбаўляюць удой малака.

З сартоў кармовых буракоў я прызнаў самымі найлепшымі Экэндорфскія жоўтыя і чырвоныя. Усе яны добра прыбіраюцца, бо растуць зусім на паверхні. Экэндорфскія жоўтыя я прызнаў лепшымі па ўсхожасьці і трывальнейшымі супроць сушы.

У дадатак да ўсяго гэтага яшчэ скажу, што раней чым брацца за жалезны плуг дзеля апрацоўкі зямлі, трэба ўзяцца за с.-г. часопісь „Плуг“ і пачытаць кожны яго нумар, а тады ўжо брацца за працу з плугам у полі. Акрамя часопісі „Плуг“ ёсьць яшчэ і с.-г. газэты *„Магілеўскі Селянін“*, *„Беларуская Вёска“* і *„Крестьянская Газета“*. Ёсьць цяпер багата кніжак па сельскай гаспадарцы. Усімі імі можна карыстацца ня толькі летам, але і зімой, калі ў селяніна найбольш вольнага часу*).

Селянін **Янка Судак**.

(х. Лебядзёўка, Кармянскага р., Магілеўшчына).

---

# Што дала праца паказальнага вучастку.

Увосень 1925 г. ў мяне на хутары *(Дзераўцоўскі с/с, Асіпавіцкі раён)* вучастковым агрономам быў закладзены паказальны вучастак пад жыта. Ён меў шэсьць дзялянак па 60 кв. саж. кожная. Уся плошча паказальнага вучастку мела 360 квадрат. саж.

Глеба на паказальным вучастку часткаю была ападзоленая супесь, а часткаю мяккая супесь. Дзеля закладкі паказальнага вучастку былі скарыстаны мінэральныя ўгнаеньні—фосфарытная мука і тамасаўка, а таксама і гной.

---

*) У маіх артыкулах („Плуг“ № 8) прашу чытаць: *12—14 вярш.* замест „12—24“ (стар. 8) і ў *яго-ж ёсьць...* замест „у мяне“ (стар. 28). Я. С.

*Вынікі досьледу паказалі:*

| №№. | Глеба. | ЧЫМ УГНОЕНА ДЗЯЛЯНКА. | Ураджай з дзялянкі ў 60 кв. саж. | | | | Ураджай на дзес. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна. | | Саломы. | | Зярна. | | Саломы. | |
| | | | Пуд. | Фунт. | Пуд. | Фунт. | Пуд. | Фунт. | Пуд. | Фунт. |
| 1 | Ападзоленая супесь. | Кантрольная (без угнаеньня, чысты папар). | 1 | 23 | 3 | 6 | 63 | — | 126 | — |
| 2 | | 2400 пудоў гною на дзес. | 2 | 17.5 | 5 | 32,5 | 97 | 20 | 232 | 20 |
| 3 | | З угнаеньнем 20 пуд. фосфарытнай мукі і 1200 пуд. гною . . | 2 | 10 | 4 | 20 | 90 | — | 180 | — |
| 4 | | 9 пудоў тамасаўкі і 1200 пуд. гною на дзес. | 3 | 4 | 8 | 4 | 124 | — | 324 | — |
| 5 | Лёгкая супесь. | Папар чорны без угнаеньня . . . . . | — | 30 | 2 | 10 | 30 | — | 90 | — |
| 6 | | Лубінавае ўгнаеньне . | 3 | 2.5 | 4 | 21.5 | 42 | 20 | 90 | 30 |

Лічбы досьледу паказалі, што здавальняючыя вынікі на ападзоленай супесі дало ўгнаеньне тамасаўкаю і гноем, як па збожжу, так і па саломе.

Фосфарытная мука разам з 1200 пуд. гною на ападзоленай супесі дала толькі крыху меншы ўраджай (90 п.), чым 2400 пуд. гною, што тлумачыцца недахватам вільгаці ў глебе, як гэта было ў бягучым годзе.

Самы лепшы ўраджай з першых чатырох дзялянак даў чорны папар без угнаеньня (63 пуд.).

Адсюль вывад, што на ападзоленай супесі большую карысьць дае тамасаўка, а далей ужо фосфарытная мука.

Зусім дрэнна абстаіць справа на лёгкай супесі без угнаеньня. Тут дзялянка паказала, што з дзесяціны гэтай глебы можна атрымаць толькі 30 пудоў жыта і 90 пудоў саломы.

Лубінавае ўгнаеньне тут павысіла ўраджай да 12 пудоў на дзесяціну.

Цяпер сялянства, гледзячы на вынікі паказальных вучасткаў, падае шмат заяў на куплю тамасаукі і фасфарытнай мукі.

С. Комлік.

(Дзераўцоўскі с/с, Асіповіцкі раён).

# Пяткускае жыта дало ўраджай самдзесяць.

Вясною 1925 году вышаў з вёскі на хутар малады энэргічны селянін Даніла Краўчанка, Юравіцкага с/с, Полацкага раёну.

Пахаці ён атрымаў толькі $1^1/_2$ дзес., а рэшта зямлі была зялёныя дзікія ляды (нядаўна высячаны лес) і балота. Глеба пескавая.

На новым месцы Краўчанка рашыў перамяніць простае сялянскае жыта на *пяткускае*. І на суседнім хутары ён абмяніў 16 пудоў.

Ніву пад жыта ён угноіў гноем і тамасаўкай. Вясною жыта перабаранаваў у два сьляды ўцоўж і поперак і падсеяў сэрадэлю.

Жыта па свайму росту, гушчыні і каласістасьці было найлепшым сярод суседніх вёсак і хутароў.

Агроном гэтага вучастку казаў мне, што такога добрага жыта ён ня бачыў на сваім вучастку.

Ніва Краўчанкі ўсё лета зварачвала на сябе ўвагу ўсіх хто праходзіў і праяжджаў дарогаю. У параўнаньні з ёю сялянскія палоскі выглядалі ўбогімі. Краўчанка думае паказаць сваё жыта на выстаўцы ў дзень „Сьвята ўраджаю“. Ураджай жыта—самдзесяць.

Г. Шасьцітка.

(Сарнаполь, Полаччына).

# Выгада сеяць лубін пад бульбу.

*(3-х гадовая практыка).*

Надта добра расьце бульба па зялёнаму лубіну. Так яна на многа больш даходна ў гаспадарцы. Ужо тры гады я сею бульбу па лубіну і атрымоўваю ўраджай ад 1.200 пуд. да 1.500 п. з дзесяціны.

Пры пераходзе ад трохполкі, свой папар заняты лубінам я разьдзяліў на дзьве часткі. Адну палову я засяваю жытам, а другая ідзе пад бульбу. Вынікі 1925 г. былі такія: жыта дало 60 п. з дзес., а бульба 1500 пуд. Асабліва добры ўраджай па лубіну дае бульба ў мокрае лета. Тут яна не баіцца нізкага поля, бо зямля заўсёды мае доступ паветра каля галін лубіну. Пры лубіне бульба таксама не баіцца глыбокай пасадкі. Аднак, трэба сказаць, што там, дзе зямля лёгкая, лубін лепш заворваць на зіму, толькі не надта позна, (калі заворваецца лубін пад жыта), а на зямлі прыпадлівай лепш заворваць вясною адначасова з пасадкаю бульбы.

Гэты свой вопыт раю ўсім гаспадаром, асабліва малазямельным, бо ён дазваляе засеяць бульбы ня столькі, колькі ёсьць гною, а колькі знойдзе выгадным сам гаспадар. Бяз гною бульба расьце дрэнна, а па лубіну вельмі добра.

Сел. Казімір Запольскі.

(Пасёлак Калодзешкі, Меншчына).

# Засевы канюшыны.

*(Вёска Шаловічы, Случчына).*

У цяжкія гады (1919, 20, 21, 22 і 23 г.) сяляне нашай вёскі не маглі завесьці ў сябе канюшыны, дзякуючы дарагоўлі. З 1923 г. ужо патроху пачалі сеяць канюшыну і пакідаць на насеньне, а ў гэтым годзе наша вёска засеяла амаль дзьве трэці поля канюшынай і адну трэць пакінула пад чысты незаняты папар будучага году. Засявалі толькі сваім насеньнем. Апрача таго, некаторыя гаспадаркі астаўшаеся насеньне канюшыны прадалі па высокай цане.

На насеньне ў нас пакідаюць атаву. Малоцяць канюшыну зімою ў самыя вялікія марозы, цапамі на таку.

# Досьлед з угнаеньнем сенажаці.

Селянін нашай вёскі Зьм. Гарбач па савету свайго сына-студэнта зрабіў досьлед з угнаеньнем сухадольнай сенажаці.

Вучастак (100 кв. саж.) падназвай Грэбялькі, дзе была вельмі дрэнная трава, ён увосень 1924 год. добра пабаранаваў і паложыў паўтара вазы дробнага гною. Вясной 1925 г. вынікі былі вельмі добрыя. Трава на пабаранавыным і ўгноеным вучастку была лепшай чым на звычайным; апрача таго ўся сорная трава зьнікла. Убачыўшы такую вялікую розніцу, Гарбач пад восень 1925 г. пабаранаваў і ўгноіў увесь вучастак. Сёлета трава на гэтым вучастку таксама значна адмянілася.

**Сел. І. Гарбач.**

---

# Палепшаньне сенажаці бульбоўнікам.

*(З практыкі селяніна)*

Як пасялкоўцу, мне прышліся 2 дзес. сухадольнае сенажаці, дзе рос, як шчаціна, адзін сівец.

З 1923 г. я спрабаваў палепшыць гэтую сенажаць пасыпкаю ўвосень і вясною попелу, паліўкаю гнаёвай жыжкаю, пасьцілкай на зіму бульбоўнікам, а вясною бягучага году пасевам мінэральнага ўгнаеньня, якое атрымаў ад мясцовага агронома.

Попел, гнаёвая жыжка і мінэральныя парашкі паляпшаюць сенажаць; яны зьністажаюць мох і выклікаюць добры рост белае і ружовае канюшыны.

Але бульбоўнік, які быў пасланы па сенажаці на зіму, таксама робіць добры ўплыў на сенажаць, што відаць з наступнай табліцы.

| | |
|---|---|
| Вучастак без угнаеньня даў . . . | 56 п. з дзес. |
| " угноены з восені і вясною попелам | 150 " " |
| " " мінэральнымі парашкамі (калійная соль і супэрф.) . | 180 " " |
| Вучастак дзе пасланы бульбоўнік (2 зімы) . | 164 " " |

Падкрэсьліваю, што сенажаць была сухадольная на падзоле.

Як відаць з табліцы, бульбоўнік можа прынесьці за зіму значную карысьць селяніну, а працы на скарыстаньне яго патрабуецца вельмі мала. Трэба толькі сабраць бульбоўнік у кучы, перавезьці на сенажаць і раскідаць, а вясною сабраць і падаслаць жывёле.

Пасьля-ж яго на сенажаці зьяўляецца трава, падобная на дзікі гарошак. Расьце яна вельмі густа і добра зьядаецца жывёлай.

Я раіў-бы ўсім сялянам зьвярнуць на гэта ўвагу і не пакідаць на зіму бульбоўніка на полі ў кучах, дзе ён дарэмна гіне.

**Селянін П. Трапашка.**

**(Лысая Гара, Сьмілавіцкі раён, Меншчына).**

---

# Як палепшыць запушчаную сенажаць.

Каб палепшыць і падняць ураджай запушчанай і заросшай мохам сенажаці, неабходна яе перапахаць. Пахаць трэба з восені плугам з атлогім атвалам, каб пласты пераварачваліся. Калі сенажаць сырая, то пахаць трэба па схілу, каб лішкі вады па барознах свабодна сьцякалі з пахаці.

Вясною пласты спачатку скародзяць талеркавай бараной „Рандаль“ (яна ёсьць у нашых саўхозах, колхозах, агропунктах), потым звычайнай жалезнай бараной. Адначасова з баранаваньнем уносяць угнаеньне: на сухіх сенажацях тамасаўкі 8-12 пуд. на дзесяціну, а на сырых калійную соль 4-6 пудоў, або звычайнага попелу да 80 пудоў на дзесяціну. Першы год сеюць выку з аўсом або авёс, а на сухой сенажаці можна лён. Такім чынам, выкарыстоўваюць сенажаць 2-3 гады, пакуль дзёран ня перапрэе. Потым сеюць адзін авёс і да яго падсяваюць мешаніну лугавых траў. Мешаніны траў для розных мясцовасьцяй і ўмоў існуе вельмі шмат. Я прывяду для прыкладу мешаніну, якую прапануе для Беларускіх умоў проф. Дмітрыеў.

| Травы мешаніны 5-6 гадоў. | Для сухадольных сенажац. | Для вільготных нізавых сенажацяй. | Для заліўных веснавых сенажацяй. |
|---|---|---|---|
| | На дзесяціну. | | |
| 1. Канюшыны чырвонай . . | 10 ф. | 8 ф. | — |
| 2. Канюшыны швэцкай . . | 10 „ | 12 „ | 10 ф. |
| 3. Цімафейкі. . . . . . . | 20 „ | 15 „ | 12 „ |
| 4. Каласоўніка вусача . . . | 20 „ | 15 „ | 40 „ |
| 5. Мурожніцы лугавой . . . | 10 „ | 10 „ | 15 „ |
| 6. Райграсу французк. . . . | 10 „ | — | — |
| 7. Купкоўкі . . . . . . . | — | 10 „ | — |
| 8. Лісахвосту . . . . . . | — | 10 „ | — |
| 9. Пырніку . . . . . . . . | — | — | 20 „ |
| Усяго . | 80 ф. | 80 ф. | 97 ф. |

Гэтай мешанінай траў карыстаюцца некалькі год.

Я. М. Савіцкі.

# Якія ставім мы вопыты.

Пасёлак Ксаверава, Сьмілавіцкага раёну, заснаваўся ў 1924 годзе. Зямля тут вельмі пустая, але маладыя гаспадары рашылі яе паправіць. У 1924 г. яны засеялі лубін на ўгнаеньне пад жыта, што дало ў 1925 г. добры прыбытак. Таксама некаторыя падсеялі сэрадэлю і завялі сваё насеньне[1]).

[1]) У 1925 г. я выпісаў „Плуг“ і стаў чытаць яго сам і сваім суседзям. Па савету „Плуга“ пачалі ставіць досьледы.

*Т. Крайка* ўвосені па лубіну, які сеяў пад жыта, высеяў яшчэ на адным вучастку фосфарытнай мукі па разьліку 25 пудоў на дзесяціну; *на другі вучастак вывез гною*, а на *трэцім пакінуў адзін лубін*. Лубін быў ніжэй сярэдняга. Акрамя таго, той вучастак лубіну, дзе быў пасеян і фосфарыт, амаль зусім зьелі авечкі. Зямля-ж гэта ня ўгнойвалася ні гноем, ні лубінам на працягу 30-г.; часьцей яе засявалі грэчкай.

Аднак, у 1926 г. ураджай жыта па лубіну і фосфарыту быў з дзесяціны 60 пудоў зярна і 150 п. саломы. Вучастак з прыбаўкай гною не падлічаны, бо мяне ня было дома, калі жыта прыбіралася з поля. Але па яго росту можна сказаць што, і яно ня было горшым, як па лубіну з фосфарытам (каля 60 п.). Жыта па аднаму лубіну дало каля 40 пуд. на дзес.

2) Вясною гэтага году ў час красаваньня жыта, на вучастках, дзе быў лубін з фосфарытам і лубінам без фосфарыту, я падсеяў лубін. К 1-му жніўню на фосфарыце лубін вырас на 44 сант. а без фосфарыту на 36 сант., ня лічачы карэньняў.

Аднак, узышло лубіну ня больш 50 проц., бо дождж ішоў толькі адзін дзень, калі сеялі лубін, а далей стаяла сухая пагода.

Вясною падсяваў у жыта і сэраделю.

Усходы таксама былі на 30-40 проц., але нажаль досьлед з падсеўным лубінам і сэрадэляю не давялося дацягнуць да восені: пры празпалосіцы іх стравілі скацінай.

3) Падсыпаў попел пад скорасьпейку і позную бульбу. Цяпер яшчэ ня ўсё падлічана, але скорасьпейка ўсюды на 25 проц. лепшая; позная таксама выглядае лепш. Сыпаў попел і на вучастак, які падрыхтаваны пад лён. На 25 ф. ільнянага семя высыпаў каля 4-х пудоў попелу. Зямля-ж была з-пад аўса і зусім пустая. Лён вырас вельмі добры.

Капусту садзіў на градках і на добра падрыхтаваным полі, пад шнур і на адлегласьці 1 арш. Капуста была браўншвэйская. У радох капусту адзін раз асыпаў асыпнікам, а рэшту матыкаваў. Выявілася, што лепш расьце тая капуста, якая пасаджана пад шнур. Бручка, пасаджаная радкамі і асыпаная, расьце добра.

*Камлюк Герасім*, зьняўшы бульбу пасадзіў кармовыя буракі расадай; пакуль што буракі растуць добра.

Ён-жа сыпаў попел па сенажаці, дзе быў мох і сівец. Вырасла добрая трава і сена вышла ў некалькі разоў больш.

*Лявончык Цярэнці* ў мінулым годзе пасеяў чырвонай канюшыны. У гэтым годзе яна парасла ня важна і ён частку яе пакінуў на насеньне. З 265 кв. саж. ён атрымаў 2 пуды чыстага насеньня, апрача другога сорту. Цяпер ён шкадуе, што не пакінуў больш. На будучы год на насеньне канюшыны пакіне больш.

На пасёлку амаль усе сеем караньплоды. У 1925 годзе шмат каму з нас давялося чытаць у часопісі „Плуг“ і „Беларускую Вёску“ аб турнэпсе і кармовых буракох. Але ніводзін гаспадар з нашага пасёлку ня меў яшчэ іх у тым годзе. У гэтым-жа годзе амаль усе пасадзілі турнэпсу для спробы. Вынікі пакуль што не важныя: *хто пасадзіў вельмі рана, той мае добры турнэпс*, а *хто спазьніўся, таму пашкодзіла земляная блыха* *). Шмат хто садзіў па два, тры разы турнэпс,

*) Чытайце артыкул сел. Я. Судака „Плуг“ № 9 „Як навучыўся я сеяць караньплоды“. (Рэд.)

але ўсё роўна з познага няма такога выніку, як з раньняга. Самае-ж галоўнае, што на тым пасёлку ўсе да аднаго пасадзілі кармовыя буракі. Акруговая агрономія дала бясплатна насеньня кармовых буракоў; вось загэтым, хто і ня думаў купляць насеньня турнэпсу, пасадзіў.

Нам казалі, што гэтае насеньне мае малую ўсхожасьць і мы яго пасеялі густа. Але насеньне пры добрай пасадцы давала 50 пр. усхожасьці. Усе былі вельмі здаволены бясплатным насеньнем.

Аб іншых досьледах, якія ставіліся пасёлкам, будзем яшчэ пісаць.

**Ф. П. Крайка.**

---

# Памылкі земляробаў.

Ня ўсё і не заўсёды ўдаецца селяніну ў яго працы. Найбольш гэта ведаюць сяляне-дасьледчыкі.

Вось два прыклады памылак дасьледчыкаў тут і паказваюцца.

Грамадзяне вёскі Баравысь, Верхачанскага с/с, Полацкака раёну рашылі ўгноіць частку сваёй зямлі пад жыта мінэральнымі ўгнаеньнямі. Дзеля гэтага яны купілі некалькі дзесяткаў пудоў супэрфосфату. Перад пасевам намачылі ў вадзе насеньне, дзе яно праляжала 24 гадзіны, затым намокшае жыта зьмяшалі з супэрфосфатам і пасеялі. Вынікі былі такія: *жыта па супэрфосфату ўрадзіла горш, чым там, дзе гной ня быў паложан!*

Дасьледчыкі і вушы павесілі.

Другі выпадак. На адным хутары гаспадар меў 15 пудоў пшаніцы; ачышчалі яе на 5 ці машынах і яшчэ астаўшаеся смецьце выбіралі рукамі. Далей пшаніца была пратручана сінім каменем. Усё здавалася-б зроблена вельмі добра. Але да пасеву пшаніца была ссыпана ў медную ванну, дзе яна праляжала некалькі дзён. Ад гэтага насеньне пшаніцы крыху пратухла. Пасеяна пшаніца была 4-га чэрвеня. Усходы дала рэдкія. Затым на полі, дзе была пасеяна пшаніца, зьявілася сурэпка, якая канчаткова дабіла пшаніцу. Ураджай пшаніцы будзе вельмі малы, можа нават і сам два не набярэцца[1]).

**Г. Шасьцітка.**

(Сарнаполь, Полаччына).

---

[1]) Памылкі земляроба вельмі часта ўстрымліваюць яго ад жаданьня заводзіць новае ці рабіць што-небудзь пановаму. Але гэта бывае толькі тады, калі селянін ня хоча параіцца з агрономам ці ня чытае с-г. кніжак. Над прыкладамі т. Шасьціткі можна задумацца, але і лёгка найці прычыну бяды. У першым выпадку трэба ведаць, што супэрфосфат на мокрае насеньне атрутны, чаму і сеюць яго паасобна за тыдзень-два да севу жыта. З пратручваньнем пшаніцы тая-ж прычына. Пратручваць пшаніцу трэба перад самым севам. (Рэд.)

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Баранеце пасевы ад зімовага чарвяка.

*Матылёк, які дае зімовага чарвяка, завецца зімовай-соўкай і дае ў год два пакаленьні. Першае выходзіць у ліпні, а другое час пасеву жыта.*

Каб па надворнаму выгляду адрозьніць зімовага чарвяка, трэба ўважліва прыглядзецца і знайсьці такія адзнакі: *дарослы чарвяк мае зямліста-шэры колер*, па *сьпіне цягнуцца тры пасачкі*, па *баках чорныя кропкі*. Ног 8 пар, а калі яго зачапіць палкай, то ён скручваецца. Гэты чарвяк знаходзіцца ў зямлі і прыносіць аграмадныя страты зімовым пасевам.

Селянін узарэ, пасее, усходы ўзойдуць добра; потым пройдзе некалькі дзён, на полі на азімым жыце і пшаніцы пачынаюць зьяўляцца кругі з бледнымі лісьцікамі, а праз некалькі дзён гэтыя лісьцікі зусім пачарнеюць.

І вось трудна дагадацца, што магло пашкодзіць азімым пасевам. Зімовы чарвяк, які любіць жыць у мяккай зямлі, да халадоў зьядае азімыя пасевы. Ноччу ён выходзіць на паверхню зямлі і падгрызае пасевы на ўзроўні глебы. Калі зімовы чарвяк зьністожыць адну частку пасеву, то пераходзіць на другую. Вось ад гэтай прычыны і бываюць кругі або лапіны на палёх. Марозаў зімовы чарвяк не баіцца і зімуе ў зямлі скручаным, колцам. Ён у гэты час зусім нічога ня есьць і жыве на той корм, які зьеў увосень.

Вясною, як толькі сыйдзе сьнег, зімовы чарвяк на азімых пасевах зьяўляецца ізноў. Але вясною ён ня так шкодны, бо яму трэба набыць сілы, якія страціў за зіму. Як толькі набярэцца сіл, чарвяк зноў уваходзіць у зямлю на глыбіню 4-6 вяршкоў і там робіць сабе гняздо з зямлі. Гэта бывае ў канцы траўня. Праз 3-4 тыдні ў гнязьдзе ўтвараецца кукончык, з якога выходзіць *матылёк—зімовая соўка*. Гэты матылёк можна ўбачыць лётаючым на папарных палёх, пусташах і наогул там, дзе расьце шмат сарнякоў. *Ён жыве ўсяго 2 тыдні і за гэты час адкладвае ад 100 да 500 яечак.* Галоўным чынам *зімовая соўка кладзе яечкі на павітусі.* Праз 5—15 дзён з яечак выходзяць маленькія шэрыя чарвячкі—зімовы чарвяк, які першы час зьядае толькі лісьце павітухі. Калі-ж ён вырасьце да поўвяршка, тады пераходзіць у зямлю і есьць розныя расьліны. На гародах зьядае маладую капусту. *Дасягнуўшы даўжыні вяршка, ён улазіць у зямлю на 3-4 вярш. і ператвараецца ў куконьчык.* Праз 3-4 тыдні *з куканчыку выходзіць летні матыль. Гэта бывае ў другой палове ліпеня. Гэтыя матылькі*, так сама як і веснавыя, *кладуць перш яечкі на павітусі, а потым увосень чарвякі пераходзяць у зямлю.*

Якраз час пераходу супадае з пачаткам пасеву азімых.

Каб ня было зімовага чарвяка, трэба на палёх і гародах зьністажаць сарнякі. Затым, папар трэба ўзорваць рана ў траўні і далей увесь час зьністажаць на полі сарнякі, якія будуць расьці. Таксама на папары добра сеяць выку з аўсом. Калі-ж чарвяк зьявіўся на азімым пасеве, то трэба 1) акапаць лапіны, як толькі іх заўважыш, канаўкамі; 2) разлажыць капуснае ці другое лісьце ў тым месцы, две зьявіўся круг з бледнымі лісьцямі і зраньня зьбіраць чарвякоў, якія знаходзяцца пад лісьцямі, і зьністажаць іх; 3) сеяць да таго часу, пакуль ня выберам з поля чарвякоў. Вось гэта паможа земляробу пазбавіцца ад шкоднікаў зімовага чарвяка.

С. Багдашыч.

---

# Вапна-неабходнае ўгнаеньне для саду

Ня гледзячы на тое, што натуральна-гістарычныя ўмовы Беларусі вельмі спрыяюць разьвіцьцю пладаводзтва, усё-ж да гэтага часу мы маем гэткія, напрыклад, статыстычныя лічбы для Беларусі, вельмі не здавальняючыя:

| | | |
|---|---|---|
| Сярэдні ўраджай пладоў з дзесяціны ў год | . | 200 п. |
| „ „ на дрэва ў год | . . . | 1.5 п. |
| Сярэдняе спажываньне пладоў на 1 жыхара ў год | . | 26 ф. |

А калі зрабіць разьмеркаваньне апошняй лічбы паміж гарадзкім і вясковым насельніцтвам, то выйдзе, што плады зьяўляюцца дарагім і рэдкім гасьцінцам для сялянства. Вось гэта самае пытаньне аб павялічэньні ўраджаю садоў прымушае шукаць найбольш хуткага і пэўнага спосабу разьвіцьця садоўніцтва. Адным з такіх спосабаў зьяўляецца ўгнаеньне садоў вапнай. Наколькі запатрабаваньне пладовых дрэў на вапну вялікае, відаць з наступных лічбаў, здабытых на Дрэзьдзенскай дасьледчай станцыі Штэглiхам. Пад адно дрэва ў 20 кв. мэтраў плошчы патрэбна вапны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Для яблыні | . 3/4 ф. | Для вішні | . 1 1/2 ф. |
| Для ігрушы | . 1/2 ф. | Для сьлівы | . 3/4 ф. |

Падкрэсьліваем, што гэта колькасьць (каля 8-20 пудоў вапны на дзесяціну) бярэцца дрэвамі з глебы, як спажыўны матэрыял. У параўнаньні з пшаніцай, якая ў 100 п. зярна мае 0,06 пуда вапны, гэта вельмі значная лічба. А калі прыняць пад увагу вельмі спрыячы ўплыў вапны на фізычныя якасьці (пабудову) глебы, дык тады неабходнасьць угнаеньня садоў вапнай стане вельмі яскравай.*)

Прыводзім вынікі працы Шлейера з угнаеньнем садоў вапнай. Сад, які доўга даваў дробныя і хворыя плады, пасьля ўгнаеньня вапнай пачаў даваць вялізны ўраджай з сярэдняй вагой аднаго яблыка ў 420 грам. Разам з гэтым вапна добра павялічвае і прырост драўніны.

Самае ўгнаеньне вапнай лепей усяго рабіць увосень зараз пасьля лістапада і абавязкова ў сухую пагоду, але можна гэта рабіць і з вясны і ў працягу ўсяго лета. Нормальным лічыцца ўгнаеньне саду вап-

*) Аб вапне, як увнаеньні наогул, пісаў своечасова ў часопісі „Плуг“ агр. Савельлеў.

най адзін раз у 3-4 гады. Адносна колькасьці трэба адзначыць, што пры разьліку неабходна трымацца нормы, 1 фунт вапны на 1 кв. мэтр у працягу 4 год. У невялікіх садох можна ўнасіць вапну штогод, прычым у першы год можна ўнасіць каля 1 фунта на 1 кв. мэтр, а ў другія гады—па $1/4$ фунта. Тэхніка разьмеркаваньня вапны па паверхні глебы не прадстаўляе ніякіх труднасьцяй. Гэта робіцца звычайным пасевам пад каронамі, адступіўшы ад кароны на палову яе радыуса, каб угнаеньне скарысталі маладыя часткі карнявой сыстэмы. Потым трэба зямлю ўскапаць лапатай, альбо ўспахаць плугам—і ўсё.

Трэба яшчэ адзначыць, што вапна ня толькі паляпшае рост дрэва, але і зьяўляецца найлепшым сродкам барацьбы з выцеканьнем клею ў костачкавых парод, а таксама надае дрэвам трываласьць супроць нападу на дрэвы розных грыбкоў — чужаедаў і шкодных кузурак *).

**Агроном І. Крупень.**

---

## Не раскідайце гнілой бульбы на полі.

Звычайна, пры выбіраньні бульбы ўвосень, добрыя і здаровыя бульбіны сяляне зьбіраюць, а гнілыя раскідваюць на полі. Гэты спосаб выбіраньня дапамагае пашырэньню заразы, якая часта нішчыць нашу бульбу.

Ногі людзей і жывёлы, колы калёс і інш. разносяць усюды часткі гнілых бульбін, а разам з імі заразную хваробу—*бульбяную гніль.*

Трэба зьбіраць папсаваныя бульбіны і зьністажаць пры дапамозе нягашанае вапны. Трэба таксама рабіць дэзынфэкцыю ў скляпох, калі ў іх ужо ляжала бульба ў мінулыя гады. Апошняя асьцярога складаецца з таго, каб пры выкіданьні гнілых бульбін з склепа ці погрэба ня кідаць яе ў гной, бо там споры бульбянай заразы прыліпаюць да саломы і перавозяцца з ёю на поле, дзе яны заражаюць бульбу.

Вось чаму пры сёлетнім прыбіраньні бульбы не раскідайце гнілой бульбы на полі, а зьбірайце ў кучы і пасыпайце яе вапнай. Ад гэтага скарэй будзе зьнішчана бульбяная гніль на полі, што дасьць і большы ўраджай бульбы.

Сарачынава, Меншчына. Селянін **А. Карнейчык.**

---

## Догляд за сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі.

Каб с.-г. машыны і прылады добра выконвалі сваю працу і болей служылі гаспадарцы, за імі патрэбен добры догляд.

Звычайна машыны псуюцца ня столькі ад працы, колькі ад няправільнага карыстаньня імі і кепскага догляду. Узімку і ў нерабочы час улетку машыны неабходна хаваць абавязкова ў крытых памяшканьнях так, каб ні сьнег ні вада на іх не пападалі. Пасьля сканчэньня работ, машыны павінны быць уважліва агледжаны, пачышчаны і

*) Гл. мой арт. „Хваробы і лячэньне пладовых дрэў“ —„Плуг“ № 6.



змазаны нафтай або мінэральным маслам. Перад работай машыну неабходна праверыць, ці ўсе часткі цэлы, (спраўны і добра змазаны, наколькі востры нажы і другія часткі, як лемех і інш). Калі машына ў поўным парадку, то ўсе падшыпнікі, буксы і іншыя часткі, якія сьціраюцца, трэба добра змазаць і потым устанавіць машыну для адпаведнай працы. У час працы трэба сачыць, каб усе гэтыя часткі былі добра змазаны. Чым шпарчэй рухаецца частка, тым болей і часьцей яе неабходна змазваць. Адчыненыя шасьцерні, як, напрыклад, у сяўнікоў, манежаў, змазваць ня варта, бо на іх садзіцца пыл, дзякуючы чаму яны хутчэй знашваюцца. Такія шасьцерні лепш часьцей ачышчаць ад пылу і прамываць нафтай.

Калі ў час працы машыны будзе заўважана хаця-б невялікая няспраўнасьць або паломка, то машыну неабходна неадкладна супыніць і ня пускаць у працу да таго часу, пакуль яна ня будзе спраўлена.

Селянін Я. С.

---

## Зьнішчайце мышэй і пацукоў.

Мышы і пацукі—гэта хатнія ворагі, к убыткам ад якіх прывык кожны гаспадар. А між тым іх трэба зьністажаць. Мышы зьядаюць і грызуць збожжа яшчэ на карані ў полі, а восеньню яны пераходзяць у склады і сьвірны і тут прыносяць убыткі ў працягу ўсёй зімы.

Хатнія мышы і пацукі заўсёды знаходзяцца ня толькі ў складах, але і ў хаце гаспадара. Яны заўсёды зьядаюць тыя прадукты, якія гаспадар запасіў для сябе і сваіх дзяцей.

Апрача таго яны псуюць будынкі, прагрызаюць дзіркі ў стрэхах, сьценах, падлогах і інш.

Але гэта яшчэ ня ўсё; яны разносяць заразьлівыя хваробы, як чума, тыфус, дызынтэрыя і інш.

Такія сур'ёзныя няшчасьці нясуць з сабой гэтыя зьвяркі.

Аберагайце сябе ад хваробы! Абараняйце свае будынкі! Захоўвайце сваю гаспадарку!

Мышы вельмі пладавітыя. У год 1 самка можа даць 8 памётаў па 5 дзяцей, г. зн. 40 штук. З першага памёту ў сярэднім 3 самкі к канцу года дадуць яшчэ 3 памёты па 5 штук, г. зн. 45 шт.; з другога памёту 3 самкі могуць даць 2 разы на 5 шт.—30 шт. і з трэцяга памёту 3 самкі дадуць па 5 шт. г. зн. к канцу года адна мыш-самка дае 130 шт. і больш.

Пацукі не так пладавіты, але калі прыплод аднаго пацука будзе ўдвое меншы прыплода мышы, г. зн. калі пацук дасьць 65 штук у год, то і гэта лічба становіцца пагрозай, калі ня нішчыць пацукоў. Трэба зьністажаць пацукоў і мышэй.

У гэтай справе сялянам паможа станцыя барацьбы са шкоднікамі НКЗБ, якая займаецца распрацоўкай пытаньняў па зьнішчэньню пацукоў, мышэй і інш. шкоднікаў гаспадаркі. За ўсімі спраўкамі трэба зьвяртацца на станцыю барацьбы са шкоднікамі—Менск, Савецкая 33, 4 паверх.

*Спосаб барацьбы з пацукамі і мышамі.* Пашыраюць сярод іх з кормам тыфус. Гэты тыфус ня шкодны для чалавека, жывёлы і пту-

шак, але пацукі і мышы павальна заражаюцца ім і гінуць. Здохлых не прыбіраюць: здаровыя мышы і пацукі паядаюць іх, заражаюцца і таксама гінуць.

Пасьля таго, як мышы зьядуць заражанага корму, яны пачынаюць хварэць на 3-5 дзень, а гінуць паміж 5-12 днём.

**Інструкцыя па зьнішчэньню пацукоў і мышэй.**

1. Добра вымыць стол, або пасудзіну, у якой будзе замешвацца цеста.
2. Добра вымыць рукі, бо пацукі ня любяць яды з пахам чалавека.
3. Насыпаць на стол жытняй мукі (гэту муку яны больш ахвотна ядуць) прыблізна ў два разы больш жыжкі (культуры).
4. Добра ўзбаўтаць жыжку ў пасудзіне.
5. Выліць *культуру* ў муку, паступова зьмешваючы цеста.
6. Цеста раскачаць даволі тонка.
7. У норы класьці цеста, скатанае ў шарыкі.
8. У стайнях, хлявох і іншых месцах, дзе ня відаць нор, раскладваць цеста велічынёю з кулак, у розных месцах.
9. У гумнах заражанае цеста складаць паміж снапамі, а ў складах паміж мяшкамі.
10. На кожную кв. сажэнь трэба жыжкі менш 1/4 шклянкі.
11. Цеста (шарыкі), нават заплесьнеўшыя, з заражаных памяшчэньняў ня выносяцца.
12. Катоў і сабак у заражаныя памяшчэньні ня пушчаць, каб яны не зьядалі цеста і трупаў.
13. Барацьбу праводзіць вечарам, калі ціха.

**Е. Яцэнткоўская.**

---

# Як пазбавіцца ад мышэй.

У сьвірнах і пад падлогамі ў хатах водзяцца мышы і пацукі.

Каб ад іх пазбавіцца, гаспадары заводзяць кошку ці труцяць іх, але труціць у хатах вельмі дрэнна затым, што пацукі і мышы здыхаюць пад падлогаю, пачынаюць там гнісьці, разносяць па хаце смурод і каб пазбавіцца ад паху, часта прыходзіцца падымаць падлогу і выкідаць адтуль мышэй. У няжылых будынках знаходзіцца столькі корму, што атрута ляжыць ня кратаная мышамі. Што датычыць да кошак, то хоць яны і зводзяць пацукоў і мышэй, але ня ў значнай меры, ды кошак да таго трэба яшчэ карміць, а гэта таксама нечага каштуе.

Між тым ёсьць вельмі добры спосаб барацьбы з мышамі—гэта шышкі чартапалоха. Гэтыя шышкі можна зьбіраць усю восень і зіму. У хатах шышкі раскідаюцца пад-за скрынямі, шкапамі, а таксама і каля прагрызеных у падлозе дзірак. У скляпох, сьвірнах і інш. кладуцца шышкі на падлозе ўдоўж сьцяны і прыкрываюцца наўкос прыбітай дошкай да сьцяны. Пры праходзе мышэй і пацукоў—шышкі прыстаюць да поўсьці так моцна, што іх не адарваць, а з шышкамі яны не залезуць у дзіркі—прыходзіцца шукаць другога выхаду на двор і назаўсёды пакінуць няпрыемнае памяшканьне [1]).

**А. Карнейчык.**

---

[1]) Дрэнна, што так не зьнішчаюцца мышы. (Рэд.)




## Час высадкі дзічак і пладовых дрэў.

Пытаньне аб пасадцы прышчэп, як у нас, так і ў Нямеччыне да апошняга часу зьяўляецца спрэчным.

Практычная садовая літаратура для ўмоў Сярэдняе Расіі і Украіны лічыць лепшай парой пасадкі пладовых дрэў вясну. Гэта-ж пераносіцца і на нашы ўмовы.

Трэба падкрэсьліць, што з організацыйнага боку дзічкі ў выхавальніках трэба высаджваць увосень, бо ў гэту пару ёсьць рабочая сіла, досыць вільгаці ў глебе, дзякуючы чаму не патрэбна іх паліваць і г. д.

Выдатны вучоны садавод Нямеччыны А. Янсон раіць купляць прышчэпы толькі ўвосень. Тады можна адабраць лепшыя дрэвы і без апаскі перасылаць іх па чугунцы.

Чамусьці лічаць, што для пэўнасьці лепей садзіць прышчэпы веснавой парой. Часам здараецца ў нас сухмень у траўні і ў чэрвені і тады паліўка абавязкова.

Паліваць шмат тысяч дзічак, высаджаных у пачатку траўня,— праца вельмі марудная, якую цяжка выканаць.

Дрэвы, якія высаджаны вясной, доўга не распускаюць пучкі і ў першае лета мала, альбо і зусім не даюць прыросту. Наша асноўная мэта, каб адразу прышчэпы пусьціліся ў рост, інакш у першыя 2-3 гады яны зусім не расправяцца ў садзе (гэта мы бачым у сялянскіх маладых пасадках).

Перад тым, як пачаць працу па гэтаму пытаньню на Горацкай дасьледчай станцыі, нам давялося параіцца з некаторымі выдатнымі садаводамі.

У. Э. Качаноўскі ў Дрыбінскім раёне на працягу 30 год з посьпехам высаджваў дзічкі ў выхавальнік увосень.

Я. К. Мароз (Лепельшчына), раіць дрэвы высаджваць на лёгкіх глебах раньняй восеньню. На зіму каля штамба нагарнуць зямлі на 24 см., а вясной зямля зноў разгартваецца.

Стары садавод-селянін з-пад Горак Лук'янаў (вёска Глінкава) сьведчыў нам, што на Пятра і Паўла даводзілася знаходзіць каля ўзьлескаў у пару касьбы дзічак яблын, якія ён карчаваў і высаджваў у ліпені ў выхавальнік, а на вясну прышчэпліваў. Аб гэтым-жа сьведчыў селянін з-пад Дрыбіна. Масавая высадка дзічак у Горацкім выхавальніку на працягу 4 год вядзецца выключна ўвосень і заўсёды з посьпехам.

У 1925 годзе да 12000 дзічак высаджана ў кастрычніку і пасадка закончана была ў пачатку лістапада (X м). У канцы верасьня 24 году

высаджана 20 прышчэп (3-х годкі), якія на другі год добра прыняліся. Трэба дадаць, што глебы нашы—досыць цяжкі лёс і ў сухмень яны ўтвараюць скарынку.

У 1925 г. быў *пастаўлен досьлед з высадкай дзічак у выхавальнік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-ы тэрмін пасадкі | 15/VIII—70 шт. | вышыні 30-35 см. | | |
| 2 „ „ | 25/VIII— „ „ | „ „ „ „ | | |
| 3 „ „ | 5/IX — „ | „ „ „ „ | | |
| 4 „ „ | 15/IX | „ „ „ „ | | |
| 5 „ „ | 25/IX | „ „ „ „ | | |
| 6 „ „ | 5/X | „ „ „ „ | | |
| 7 „ „ | 17/X—40 шт. | „ „ „ „ | | |

Досьлед быў працягнуты вясной 1926 г.; высаджвалася па 70 шт. аднагадовых дзічак у такія тэрміны—22/IV, 30/IV, 12/V.

У першы тэрмін (15/VIII-25 г.) свой узрост дзічкі ня скончылі і былі высаджаны з зялёным лісьцем, якое ня здымалася. Дзякуючы недахопу вільгаці ў глебе дзічкі паліваліся.

Пазьней пасьля 1-га тэрміну дзічкі ўзрост скончылі, але ліст яшчэ трымаўся да 6 га тэрміну. У канцы верасьня карэньчыкі некаторых дзічак (1, 2, 3 і 4 тэрміну пасадкі) намі аглядаліся.

Выразна вызначалася, што дзічкі, высаджаныя 15/VIII далі новыя карэньчыкі. Гэта нельга было ўбачыць на дзічках пазьнейшага тэрміну высадкі. 15/V 26 г. можна было прымеціць, што дзічкі пасадкі ад 15/VIII-25 г. маюць пасохшыя вяршынкі ў 9-10 см., а ніжэй пучкі ўсіх 70 дзічак распусьціліся ў лісьцікі.

Усе дзічкі іншых тэрмінаў пасадкі маюць здаровыя вяршынкі з разпусьціўшыміся пучкамі. Прымаючы пад увагу, што вясной дзічкі заўсёды падразаюцца на $^1/_3$, можна лічыць усыханьне вяршынак ня шкодным.

Нашы досьледы ў гэтым напрамку будуць працягнуты на далейшыя гады.

Досыць вільготны і наогул спрыяючы клімат, ня вельмі цяжкія глебы і асаблівасьць пладовых парод (біолёгія якіх павінна падрабязна вывучацца)—усё гэта разам дае надзею на вырашэньне ў будучыне закранутага пытаньня ў пажаданым напрамку.

**М. Бурштэйн.**

---

# Пасеў насеньня пладовых дрэў.

*Месца для пасеву* лепш выбраць з невялікім схілам на паўднёвы ўсход, поўдзень, паўднёвы захад з добрай, глыбкаватай, пульхнай зямлёй.

*Пасеўныя грады* робяць 10 с. даўжынёю, $1^1/_2$ арш. шырынёю з $^1/_2$ арш. баразною ў 3 вяршкі глыбіні. Калі грады робяць вясною, то іх трэба добра пераматыкаваць, успульхніць на 4 вярш. глыбінёю і выбраць карэньні сарнякоў. Глыбіня запашкі павінна быць ня менш $^1/_2$ вярш. і ні ў якім разе ня глыбей 1 вяршка. На шчыльных глiністых глебах лепш сеяць мялчэй, на супескавых крыху глыбей.

*Разьмрекаваньне зярнят на градцы.* Палавіну пасеяць густа для атрыманьня сеянцаў пад пікіроўку і другую палавіну пасеяць рэдка.

Пры пасеве пад пікіроўку, колькасьць зярнят на граду ці плошчу вызначаецца так: на градзе (10 саж. даўжынёю і 1½ арш. шырынёю) зьмяшчаецца 6 баразён удоўж або 120 папярэчных праз 4 вяршкі адна ад другой, адступаючы 2 вярш. ад баразны. Даўжыня ўсіх баразён на градзе=10 саж.×6 бар.=60 саж., або 2880 вярш. На 1 вярш. баразны зьмяшчаецца 6 зёран. Усяго на градзе зьмяшчаецца 6 зёран×2880=17280 зёран, а ў фунтох будзе:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| насеньня | яблыні | прыкладна | 1¼ | фунт. |
| „ | ігрушы | „ | 1½ | „ |
| костачак | вішні | „ | 5 | „ |
| „ | сьлівы | „ | 11 | „ |

Барозны робяцца матыкай і насеньне высяваецца з пяском рукамі. Некаторыя садаводы раяць сеяць гусьцей—10 зярнят на 1 вярш.; але лепш не паскупіцца плошчаю зямлі, каб потым пры капаньні для пікіроўкі не пашкодзіць сеянцаў, якія ўзыходзяць пазьней.

Рэдкі пасеў робяць з такім разьлікам, каб узышоўшыя сеянцы засталіся на месцы без пікіроўкі; пры гэтым разьмяркоўваюць так, каб на 1 вяршок плошчы прыпала па 2 зярны.

Прыкрываюць пасеў граблямі і потым усю граду мы раім пакрыць кампоснай зямлёй (перагной з лісьцяў, дзёрану, розных гаспадарчых адкідаў і інш.). Слой бярэцца да ¼ вяршка таўшчыні. Калі такой зямлі няма, то можна прыкрываць добра перагнойным, выветраўшымся торфам, апілкамі, мохам, дробнай перапрэўшай саломай, мякінай, добра перапрэўшым зямлістым гноем і інш. Гэта прыкрываньне захоўвае глебу ад высыханьня і зямля пад ім заўсёды будзе пульхнай і вільготнай. Гэта вельмі важна для прарастаньня насеньня. У б. Горацкім с.-г. Ін-це пад кіраўніцтвам кафэдры садоўніцтва студэнтамі Сачковым, Беленькавым і інш. у 1925 годзе ставіўся досьлед з прыкрываньнем насеньня дзічак.

Вынікі досьледу пацьвярджаюць неабходнасьць прыкрываньня ў нашых умовах. Пры прыкрываньні мохам, пяском і апілкамі, лепшыя ўсходы былі пад апілкамі.

Абарона пасеўных град ад галак і інш. птушак, якія выклёўваюць шмат зёран. Супроць іх трэба ставіць розныя пужалы.

Р. Гуржы.

(Горкі, С.-г. Акадэмія).

# Як перахоўваць яблыкі і ігрушы.

Правільную прыборку яблык і ігруш, хаваньне і сартаваньне іх трэба лічыць важнай працай у садоўніцтве, бо яна дазваляе павялічыць даходнасьць саду.

Хаваюцца на больш доўгі час толькі яблыкі асеньнія і зімнія. Дзеля гэтай мэты можа служыць усякае памяшканьне—пограб, склеп і інш, абы ў ім ня было залішняе ні сушы, ні вільгаці, ні рэзкіх зьмен тэмпэратуры; лепш у такіх паграбох не хаваць бульбы, капусты, гуркоў і інш., бо яны псуюць пах пладоў.

У вільготных памяшканьнях шмат бывае плесьні. Калі простым праветрываньнем ня можна зьменшыць лішкі вільгаці, то ставяць пасуду з неадгашанай вапнай ці з хлёркаю (хлёрны кальцый) і яны хутка асушаюць памяшканьне.

Плады псуюцца і ад сьвету, дзеля гэтага памяшканьне павінна быць цёмным, ці са слабым сьветам. Усе вокны зачыняюцца.

Яшчэ важная ўмова пры перахоўваньні пладоў — гэта чыстата памяшканьня. Як толькі яно аслабаніцца ад пладоў былога сэзону, то яго праветрываюць, сьцены і столь беляць вапнай, а падлогу і полкі добра абмываюць лугам з мылам.

Перад унясеньнем пладоў у памяшканьне, яго акурваюць серкай і трымаюць закрытым на працягу 3-х дзён. На кожныя 10 куб. сант. даволі 15 грамаў серкі. Абкурваньне серкай робіцца вельмі проста: у памяшканьне ўносіцца пасуда, у якую ўстаўляюць чугуны з гарачымі вугальлямі, хутка кладуць на вуглі-серку і шчыльна зачыняюць памяшканьне. Лёгкае абкурваньне робяць і зімой, пасьля ўкладкі пладоў. Тэмпэратура ў памяшканьні павінна быць 2-3 градусы.

Перад тым, як уносіць плады ў склеп, трэба паклапаціцца, каб яны правялі. Робіцца гэта так: сабраўшы плады ў сухое надвор'е кладуць іх у пуні на сухую салому, дзе яны ляжаць нятоўстым слоем каля 2-х тыдняў. Далей плады ўносяць у памяшканьне.

Пры звычайных умовах, калі трэба пакласьці невялікі ўраджай, на падлозе памяшканьна насьцілаецца салома ці сена і на іх кладуць плады. Каб да іх спадручней было падыходзіць, пакідаюць між пладамі вузкую сьцежку.

Плошча памяшканьня значна павялічваецца пастаноўкай сталоў і ўпарадкаваньнем полак, шырыня якіх павінна быць такая, каб праз іх лёгка было даставаць плады і аглядаць іх.

Раньнія і каштоўныя плады кладуцца ў адзін пласт (ігрушы па магчымасьці хвосьцікамі ўверх). Пры недастачы месца можна класьці ў два, тры пласты, але-ж потым пры аслабаненьні месца, яблыкі раскладаюць у адзін пласт.

У далэйшым трэба аглядаць іх і выбіраць тыя, на якіх зьяўляюцца плямы, ці якія пачалі ўжо гнісьці. Такі агляд павінен рабіцца даволі часта і з вялікай увагай, інакш шмат пладоў зьнішчыцца і перахоўваньне ня дасьць патрэбнай карысьці.

Яблыкі і ігрушы, якія зьберагаюцца такім чынам, добра захоўваюцца да вясны і нават да познага лета, што дае магчымасьць карыстацца цэлы год сьвежымі пладамі і дазваляе прадаваць іх даражэй.

**Дз. Пракапенка.**

---

# Хаваньне ігруш і яблык на зіму.

У нашым раёне сёлета добра ўрадзілі яблыкі і ігрушы. Збываць іх у нас няма куды, а калі можна прадаць, дык зусім дзёшава. Я і хачу параіць сялянам, як хаваць плады да вясны, да добрай цаны.

Як толькі пасьпеюць яблыкі і ігрушы і пачнуць ападаць з дрэў ня зямлю, тады трэба выбраць тыя з іх, якія моцна сядзяць на дрэве і нічым не папсуты, палажыць у памяшканьне (хату, сьвіран і інш.), закрыць чыстым палатном і пакінуць на 3-7 дзён, адчынаючы ў добрую пагоду дзьверы і вокны ў памяшканьні. Пасьля гэтага абцерці кожны плод чыстым палатном і злажыць у кадушкі ці скрынкі, перасыпаўшы слаём сухога пяску, сечкі ці зярнятамі, таўшчынёю на вяршок. Кадушкі добра закрыць, каб ня ўлезьлі мышы, і паставіць у сухі склеп ці варыўню, куды мароз не заходзіць. Так схаваўшы яблыкі, можна іх зьберагчы аж да сакавіка месяца.

**А. Карнейчык.**




# Чысты і цёплы хлеў — пачатак добрай пароды.

Калі паглядзець на хлявы нашых сялян, дык амаль ўсюды ўбачыш, што хлеў стаіць, як на курыных ножках: страха з дзіркамі, столі зусім ня бывае, а калі яна і ёсьць, то складзеная з некалькіх жэрдак толькі дзеля таго, каб там куры нясьліся. Вуглы ў хлеве заўсёды з шчылінамі, дзьверы таксама трымаюцца толькі ад сонца, а вецер гуляе свабодна.




Мал. 1. Ліцавы бок паказальнага хлява.

Вось у такім хлеве і знаходзіцца наша згорбіўшаяся ад холаду карова. Праўда, у сучасны момант шмат гаспадароў пачынаюць будаваць хлявы па новаму і ўжо маюць добрыя вынікі. Але ня мала яшчэ ёсьць і такіх гаспадароў, якія кажуць, што наша карова прывыкла да холаду, дык цёплы хлеў ёй ня вельмі карысны. Такі погляд селяніна памылковы. Наша сялянская карова, папаўшы ў цёплы і чысты хлеў, дае ў суткі ня дзьве бутэлькі малака, а 15. Праўда, тут гаспадар павінен паклапаціцца і аб добрым падборы пароды. Знача, прадукцыйнасьць быдла залежыць і ад добрага жыцьця. *Бяз цёплага хлева не магчыма правільнае кармленьне, правільны догляд, даеньне.* Асабліва ў халодным, гразкім і цёмным хлеве не магчыма правільна глядзець за вымем, якое трэба абмываць і расціраць перад даеньнем. Ці зро-




Мал. 2. Плян паказальнага хлява. Стойлы: 1—для коняй, 2—кароў, 3—цялят, 4—дзьверы ў столі, 5—стойла для авечак, 6—птушак, 7—сьвіней (4 катухі), 8—запарнік, 9—яські, 10—кармушкі, 11—калідор, 12—гнёзды птушак, 13—тамбур, 14—гнаёвая куча, а—вокны, б—дзьверы.

біць усё гэта гаспадыня, калі ў хлеве 20° марозу? Рукі яе адзервянеюць і ўсё робіцца абы як.

Калі гаспадар пазатыкае ўсе дзіркі, дасьць у хлеў сьвет, то сам хутка ўбачыць карысьць: *ён атрымае добрае цяля, большы ўдой малака і ў яго пойдзе менш корму*, бо жывёла на холадзе есьць у два разы больш, чым у цяпле.

З усяго гэтага відаць, што *чысты і цёплы хлеў—пачатак добрай пароды.*

Гаспадары, аглядайце з восені свае хлявы, будуйце толькі цёплы хлеў і правільна, як раяць агрономы!

**Селянін С. Сялюкін.**

(Лёхава, Межанск. р., Віцебшчына).

---

# Проэкт паказальнага хлява для с-г. жывёлы.

З мэтаю пашыраць такую будоўлю, якая адказвае патрэбам палепшанай жывёлагадоўлі, Аддзел жывёлагадоўлі НКЗБ вырашыў будаваць новыя паказальныя двары па зацьверджанаму пляну.

Добра абсталяваны паказальны будынак адпавядае ўсім патрэбам жывёлагадоўлі сялянскіх гаспадарак. Ён дае магчымасьць пашыраць тып гэтага будынку і сярод пасялковых гаспадарак.

Паказальны двор для жывёлы павінен быць 13,5 м. даўжыні, 8 м. шырыні і 3 м. вышыні. Па разьмерах ён адпавядае сярэдняй сялянскай гаспадарцы, у якой ёсьць 2 кані, 2-3 каровы, 2 цялят, 4 сьвіньні, 4-5 авечак і 15-20 курэй (гл. мал. на 27 стар.).

У залежнасьці ад сродкаў і ліку хатняй жывёлы, кожны гаспадар можа зьмяніць гэты проэкт будынку.

Але гэты проэкт досыць адпавядае патрэбам сярэдняй пасялковай гаспадарцы, калі яна забясьпечана сродкамі і рабочаю сілаю.

Сьцены будынку можна рабіць і гліна-плятнёвыя. У раёнах, дзе можна купіць па ільготных цэнах лесу—драўляныя (гл. мал. 1, ліцавы бок паказальнага хлява). Падлога і столь робяцца з сасновых дошак; пры гэтым падлога кладзецца на шчыльна ўтрамбаванай гліне.




Мал. 3. Карова ў кармушкі.



Мал. 4. Кармушка на дзьве каровы. Даўжыня 2 м. 30 см., шыр. 1 м. 15 см., вышыня сьпераду 1 м. 42 см., ззаду—88 см.

У птушніку пры ўтрамбаваньні гліны прысыпваецца шчэбень і бітае шкло, каб пазбавіцца ад залязаньня тхароў і пацукоў. Сьцены птушніка робяцца глухімі, каб часам вошы не пераходзілі ад курэй на цялят і іншую жывёлу.

Цераз паказаныя ў пляне дзьверы птушка выходзіць на двор. Па даўжыні ўсяго скотнага двара, як паказана ў пляне кропкамі (пункцірам), будуецца рышток для сьцёка гнаёвай жыжкі. Жолаб шырынёю 6-8 вяршкоў, глыбінёй $2^1/_2$ вяршкі, мае ўхіл да студні для жыжкі ($^3/_4$ вяршка на пагонны сажань). Ухіл стойла да рыштка для жыжкі $1\text{-}1^1/_2$ вяршкі на пагонны сажань. Лепшым матар'ялам для рыштка зьяўляецца цэмант альбо цэгла на цэманце. У сялянскіх гаспадарках звычайна робяць жолаб з прасмоленых дошак. Пры гэтым



Мал. 5. Труба для цягі.




Мал. 6. Ход паветра ў трубе Муіра. 1 страха, 2 столь хлява.

каля сьцен і са дна здымаецца вяршкоў на пяць зямля і пасыпаецца гліна, шчыльна ўтрамбаваная, каб не праходзіла жыжка.

Кармушкі для буйнае рагатае жывёлы робяць пераноснымі і непераноснымі па Дацкаму тыпу (гл. мал. 3 і 4-ты).

Вокны робяць так, каб на 12 кв. арш. прыходзіўся 1 кв. арш. вакна. Такога разьмеру вокны даюць досыць сьвятла. Пажадана, каб рамы ў вокнах былі падвойныя.

Для ачысткі паветра ў будынку робяць дзьве выцяжныя трубы сыстэмы Муіра. Адна труба пры сьвінушніку, а другая пры скотн. хляве, як паказана на малюнку №№ 1, 5 і 6.

Выцяжная труба робіцца з 4-цалёвых дошак. У сярэдзіне дзеліцца дзьвюма перагародкамі на чатыры часткі. Кожная сьценка трубы шырынёю 3/4 аршына. Канец трубы высоўваецца пад стольлю не даўжэй 3/4 аршына. Асноваю гэтага канца зьяўляецца драўляны шчыт, роўны у квадраце 2 1/2 арш. (У два разы больш плошчы асновы трубы).

Для рэгуляваньня цяплыні ў скотным хлеве ў нізе трубы робяцца дзьве высоўваючыяся засланкі. Такіх засланак неабходна 4, па ліку адзяленьняў трубы.

Для пабудовы паказальнага тыпа скотнага двара патрэбна матар'ялу: 9-ці аршынных бярвеньняў 4-5 вярш. каля 90 штук і дошак 9-ці аршын. 4-5 вярш. каля 150 штук. У тым выпадку, калі па якім-небудзь прычынам ня будзе адбудоўвацца кармова-запарачнае аддзяленьне (№ 8), то выдаткі, як на куплю матар'ялаў, таксама і на аплату рабочае сілы значна скарачаюцца.

Да сучаснага моманту ў кожнай акрузе ўжо збудавана па аднаму такому паказальнаму хляву і пачата будова яшчэ 10 паказальных двароў па ўсіх акругах.

Грамадзяне, якія цікавяцца пабудоваю такога скотнага хлява і жадаюць больш падрабязна пазнаёміцца з ім, могуць зьвяртацца на месцы іх знахаджэньня [1]).

Усякія парады ў зьвязку са зьменаю тыповага пляну ў залежнасьці ад патрэб кожнага грамадзяніна, можна атрымаць ад мясцовага заотэхніка і агранома.

Агрон. **Цімашкоў.**

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ

## Што павінен ведаць кожны селянін у вэтэрынаррай справе.

### Парады.

1. Папярэдзіць хваробу жывёлы лягчэй, чым лячыць.

Сяляне самі павінны дапамагаць вэтпэрсаналу праводзіць гэта ў жыцьцё.

2. Жывёла, якая гадуецца ў нормальных умовах, вырастае здаровай і трывалай.

Чым лепшы жывы інвэнтар (скаціна), тым хутчэй можна палепшыць гаспадарку.

3. Правільны догляд і кармленьне жывёлы спрыяюць іх здароўю і большай прадукцыі.

Большая прадукцыйнасьць скаціны павялічвае даходнасьць гаспадаркі.

4. Трыманьне ў чыстаце хлявоў і канюшань служыць пэўнай абаронай ад пашырэньня заразьлівых хвароб сярод жывёлы.

Наглядайце за чыстатой хлявоў і канюшань у вашых гаспадарках.

5. Закладаньне магільнікаў для жывёлы зьяўляецца самай галоўнай і неабходнай мерай супроць пашырэньня заразьлівых хвароб.

Закапвайце паўшую жывёлу і птушак на мясцох, якія для гэтага адведзены і абгароджаны.

[1]) Бабруйская акруга, Жлобінскі р., пасёлак „Новы Сьвет“. Барысаўская акруга, Зембінскі р., пасёлак „Першае мая“ ў грамадзяніна Д. Шкрэда. Віцебская акруга, Сененскі раён. Калінінская акруга, Мсьціслаўскі раён, саўхоз Лютня. Менская акруга, Койданоўскі раён, Старынкаўскага с.-с., вёска Птушкавічы ў К. Калечыча. Магілеўская акруга, Шклоўскі р., Аршанская акруга. Аршанскі р. па ёлак „Сасноўка“. Полацкая акруга, Ветрынскі р., Пацюлава, у грам. Паўлы Лыжка. Слуцкая акруга, Капыльскі р., Старакапыльскага с.-с., пасёлак Асмозы у грамадз. Аляксандры Кучынскага.

6. Утрыманьне пашы і вадапояў у чыстаце захоўвае жывёлу ад пошасьцяй.

Назірайце, каб на пашы не валялася паўшая скаціна, не заводзьце пашы на сырых і забалочаных мясцох, трымайце вадаёмы ў чыстаце.

7. Хворая жывёла заўсёды можа перадаць заразу здаровай.

Жывёлу, якая захварэла на заразьлівую хваробу, трымайце асобна і зараз-жа выклікайце вэтэрынара.

8. Зараза перадаецца і разносіцца праз гной, збрую, адзежу, астачу корму, аб'едкамі і бруднай пасудай.

Пільнуйцеся чыстаты, зьнішчайце гной і іншыя малакаштоўныя рэчы, да якіх датыкалася хворая жывёла, наглядайце за чыстатой свайго абуцьця, адзежы, рук і пасуды.

9. Зараза доўгі час можа захоўвацца ў гнаі.

Ня выкідайце гною з заразных будынкаў; заразны гной паліце, або абяззаражвайце яго перад вывазам на поле.

10. Асьцярагайцеся цесных і брудных заежджых двароў, дзе вы самі і ваша жывёла можа заразіцца.

11. Праз такі сырэц, як скура, воўна, волас, косьці і інш. часта разносіцца зараза.

Не дазваляйце, каб блізка вашых двароў будаваліся склады гэтага сырцу і вымагайце заўсёды вэтэрынарнага абсьледаваньня яго.

12. Праз мясныя прадукты часта пашыраецца заразьлівая хвароба жывёлы, часта хварэюць і людзі.

Наглядайце, каб усю скаціну забівалі на бойнях пад кантролем вэтэрынарнага пэрсоналу.

13. Заразьлівая хвароба сярод жывёлы нясе вялікую шкоду гаспадарцы.

Прымайце сваячасна ўсе належныя меры, якія ўказаны ў вэтэрынарным укладзе і якія раіць вэтпэрсанал.

14. Шчапеньне зьяўляецца пэўным і дасьледжаным уратаваньнем жывёлы ад заразьлівых хвароб.

Пасьпяшайцеся выклікаць вэтэрынара дзеля таго, каб зрабіць хворай скаціне шчапеньне і дапамагайце яму ў гэтым.

15. Без капыта—ня конь.

Назірайце за капытамі вашых коняй. Сваячасна зразайце і падраўняйце дзіч, які разросься і абмярцьвеў; наглядайце за правільнай падкоўкай: не дапушчайце, каб падкова клалася гарачая і вымагайце, каб яна была шчыльна падбіта пад капыт; дамагайцеся прыкладных кузьняў пры вэтэрынарных вучастках.

16. Добра зробленая збруя палягчае працу каня або вала.

Назірайце, каб хамуты і ярмы былі зроблены ў меру—праца пойдзе хутчэй і жывёла будзе здаравейшай.

17. Ня трэба паіць стомленага каня халоднай вадой і не даваць яму збожжа. — У каня ня будзе апою і колікаў.

18. Ня трымай корму на дварэ. — Пазбавіш яго ад плесьні, сырасьці і загніваньня, а разам з гэтым захаваеш сваю скаціну ад шмат якіх небясьпечных хвароб.

19. Ніколі не давай коням і дойным каровам (асабліва жарэбным і цельным) мёрзлага, цьвілога і гнілога корму. — Захаваеш скаціну ад вострых хвароб жывата і кішок і папярэдзіш выкідышы.

20. Уцяпляй на зіму хлявы і канюшні. — Менш зрасходуеш корму, павялічыш доход ад скаціны.

21. Не пакідай стомленага ці спацеўшага каня на ветры. — Захаваеш яго ад хвароб, якія зьяўляюцца вынікам прастуды; пастаў каня куды-небудзь у зацішак і накрый.

22. Ня купляй жывёлы бяз вэтэрынарнага агляду. — Пазбавішся ад ашуканства гандляроў і захаваеш сваю працоўную капейку.

23. Канавальства і знахарства—спадарожнікі цемры і няпісьменнасьці. — Праганяйце ад сабе знахароў і канавалаў, яны калечаць вашу жывёлу і апаражняюць ашуканствам кішэні.

24. Дзяржаўнае страхаваньне жывёлы засьцерагае сялянскую гаспадарку ад бяды. — Страхуйце сваю скаціну.

25. Хворая жывёла, як і хворы чалавек, патрабуе спакою, належнага догляду і лячэньня. — Па магчымасьці дапамагайце абсталяваньню ў раёнах вэтэрынарных лячэбніц і амбуляторый.

26. Хочаш мець больш ведаў па вэтэрынарнай справе, дамагайся організацыі вэтэрынарна-санітарных апякунстваў і вэтэрынарных куткоў пры хатах-чытальнях. — Вэтэрынарная дапамога ва ўсіх яе галінах бясплатна для працоўнага сялянства.

27. Вэтэрынарны працаўнік—дабрадзей і дапаможнік у сялянскай нядолі. — Шануйце яго працу і будзьце ўважлівы да яго патрэб.

Вэтэрынар **У. І. Бурцаў.**




## Падсобныя лясныя промыслы.

*Здабыча дубільнай кары.* Здабыча дубільнай кары можа даць добры заработак сялянам. Дубільнай кары патрабуецца так многа, што ёсьць сэнс у некаторых мясцовасьцях заняцца разьвядзеньнем асобных для гэтага расьлін.

Асабліва шмат дубільнай кісласьці ў кары дуба і вярбы. Гэта кісьласьць знаходзіцца галоўным чынам у лубе. Найлепшая кара атрымоўваецца з маладых дрэў ва ўзросьце да 20 г.

З вярбовых парод для здабычы дубільнай кары найбольш прыгодна „казіная вярба“ ці, як усім вядома, проста вярба, якая ў нас на Беларусі расьце ўсюды. Дубільную кару можна атрымаць таксама і з некаторых парод кошыкавай лазы—„белаталу“. Калі плятуць кошыкі ці іншыя вырабы з лазы, кару з дубцоў зьдзіраюць і пакідаюць. Вельмі сходна злучыць справу пляценьня кошыкаў з здабычаю дубільнай кары. Для правільна арганізаванай сялянскай арцелі сходна наладзіць: 1) разьвядзеньне кошыкавай лазы, 2) здабычу дубільнага матэрыялу з лазовага дрэвастану, 3) выраб кошыкаў і рознай мэблі з ачышчаных лазовых дубцоў.

*Здабыча фарбавальнай матэрыі.* Сялянам, якія займаюцца здабычай дубільнай кары, трэба зьвярнуць увагу на пабочны даход ад гэтага промыслу – гэта на здабычу фарбавальнай матэрыі. Гэты пабочны даход часта дае столькі, колькі і галоўны промысел.

Кара крохкай крушыны дае цёмную фарбу, якою сяляне ахвотна карыстаюцца для афарбоўкі хатніх тканін. Каб атрымаць цынамонавую фарбу, трэба ў траўні ці ліпні надраць з вольхі кары і высушыць яе. Гэткую кару крышаць на дробныя кавалкі, кладуць у саган 1-2 фун. кары на вядро вады, абварваюць кіпятком і выстаўляюць на 2-3 дні на сонца. Пасьля гэтага мочаць у гэтай фарбе палотны і сушаць іх, расьцілаючы на сонцы. Больш цёмны колер дае кара чарэмхі. З маладых лісьцяў бярозы, вывараных з галыном (квасцы), атрымоўваюць трывалую жоўта-зялёную фарбу. Пупышкі і красачкі таполі даюць фіалетавую фарбу. Пекную жоўтую фарбу дае вядомы ўсім хмызьняк-жымаласьць. Сок ягад бузіны чорнай—надае чырванаваты колер, а чырвонай—бронзава-зялёны. Дубовая кара афарбоўвае тканіны ў шэра-буравaты колер.

*Загатоўка абручоў.* Гэта таксама даволі выгадны промысел. Для вялікіх чанаў і бочак абручы вырабляюць, раскалваючы дубкі і ясені сярэдняга ўзросту. Для меншай пасуды лепшымі абручамі лічацца дубовыя і ляшчынныя. Таксама вельмі пашыраны абручы з бярозы.

*Выраб дуг, абадоў і санных палазоў.* На дугі ідзе, галоўным чынам, звычайная вярба. Дзеля гэтага ўвосень яе ссякаюць, затым што кражы вясеньняй рубкі на станку часта лопаюцца. Станок для гнуцьця дуг складаецца з дужнай дошкі, гнутнікаў, пляча і кацярынак (воратаў). Каб лепш і хутчэй абрубкі гнуліся, іх параць у парнях.

На абады загатаўляюца цьвёрдыя пароды—дуб, ясень, ільм. А дзе гэтых парод мала, то загатаўляюць бярозу і нават асіну. Кражы на абады робяць для пярэдняй пары кол скату ад 4-$4^1/_2$ арш., а для задніх—5-$5^1/_2$ арш. даўжынёю. Для згібу робіцца шаблён, таксама, як і на дугі, але ў форме кола. Звычайна для вырабу і загатоўкі абадоў організоўваюць арцель з 6 чалавек: адзін падгатаўляе плашкі, у трох вядуць рычаг, у двох правяць шыну і г. д. Гэткая арцель вырабляе да 100 абадоў у дзень.

Для загатоўкі санных палазоў і санак карыстаюцца дубам, ясенем, вольхай, а калі гэтых парод мала, то ўжываюць бярозу, клён і асіну. Але такія палазы трэба акоўваць шынамі.

**Б. Ліпкін.**

---

# Новыя кніжкі, якія прысланы ў рэдакцыю „Плуга“.

*С. Н. Журык.* „Быдла Горацкага раёну“. Горкі, 1926 г. Першая спроба сталага вывучэньня малочнага быдла на Беларусі (пакуль што Горацкага раёну). Аўтар карыстаецца матэрыяламі ў зьвязку з абсьледаваньнем сялянскай скаціны 82 хутароў б. вёскі Малыя Шарыпы і 4 пасёлкаў, што ўтварыліся з вёскі Вялікія Шарыпы, а таксама і гуртка сялянскай скаціны, што куплена фэрмай сельскай гаспадарчай Акадэміі.

У пэрыод даеньня амаль усюды сялянскія каровы не даядаюць, чаму хутка худзеюць. Аднак часта сярэдні гадавы ўдой малака дасягае 1500-1600 кілёгр. (100 п.), а пры добрым кармленьні ён можа дасягнуць 2210-2460 кгр. (150 п.). Кніжка мае шмат цікавага і заслугоўвае ўвагі агрономаў і культурных гаспадароў.

*Проф. М. І. Бурштэйн.*—„Вынікі 50-ці гадовае працы Я. К. Мароза ў садоўніцтве“. Горкі, 1926 г.

Аўтар каротка пералічвае найцікавейшыя вынікі ў садоўніцтве ў зьвязку з працай сям'і селяніна-дасьледчыка Я. К. Мароза (гаспадарка „Фатынь“, Лепельшчына).

Першы сад пасадзіў Я. К. Мароз у 1896 г., яшчэ разам са сваім бацькам-настаўнікам. З таго часу шмат папрацаваў і шмат чаго даў нашаму садоўніцтву Язэп Кандратавіч, але (што характэрна для яго) мала пісаў. Вось чаму гэту невялічкую і першую экспэдыцыйную працу ў гасп. „Фатынь“ трэба вітаць, бо ўсё садоўніцтва БССР вельмі мала высьледавана, хаця для свайго разьвіцьця яно і мае пэўны грунт.

*Доцэнт В. П. Жыван.*—„Сорт Шацкой ржи“. Горкі, 1926 г.

Аўтар апісвае наша, так званае *Шацкае жыта,* зрабіўшы вывучэньне на колькі можна было на 16 снапох з розных месц. Паказваецца шмат параўнаньняў шацкага жыта з пяткускім і мясцовым і выяўляюцца шмат якія добрыя якасьці гэтага жыта. Нажаль, аўтар яшчэ ня змог упэўніцца ў пахаджэньні шацкага жыта, як ня ўпэўнен і ў яго сталасьці, як сорта.

**С. Т.**

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Аб пахатных і лугавых вучастках у лясных дачах.

Народным Камісарыятам Земляробства разасланы Інспэктарам Лясоў і акруговым зямельным камісіям абежнік аб расчышчаных з-пад лесу зямельных вучастках, якія арандуюць сяляне.

Па дзяржаўных, а галоўным чынам лясох быўшых памешчыкаў, раскідана шмат пахатных палянак і сенакосных вучасткаў. Гэтыя землі здаваліся ў арэнду сялянам.

Пасьля рэволюцыі пахатныя і сенакосныя вучасткі, якія ляжаць сярод лесу, засталіся ў карыстаньні ў арандатараў, якія павінны былі зладжыць на іх асобны ўгавор з лясьніцтвамі. Па ўгавору сельска-гаспадарчае карыстаньне павінна было быць часовым і бязплатным для сялян, якія ня маюць другой зямлі.

Цяпер у зьвязку з адмежаваньнем лясоў, паўстала пытаньне, ці трэба пахатныя і сенакосныя землі пакінуць у складзе ляснога фонду ці выдзеліць з яго. Па абежніку Наркамзема ў лясной практыцы пад *часовым сельска-гаспадарчым карыстаньнем разумеецца аддача ў арэнду вырубак ці нават палянак на 2-3 гады,* але з тым, што пасьля гэтага тэрміну яны павінны быць засеяны ці засаджаны лесам. Бывае, што тэрмін гэты працягваецца, але ня больш 6 год і з асобага дазволу Ляснога Кіраўніцтва, калі ёсьць якія-небудзь перашкоды да засеву лесу.

Што датычыцца сялян, якія арандавалі зямельныя вучасткі, хоць бы і сярод лесу, то іх вучасткі павінны быць залічаны да зямель працоўнага карыстаньня.

Такім чынам знаходзячыяся ў карыстаньні сялян пахатныя і сенакосныя вучасткі, якія ляжаць сярод лесу, па свайму прававому палажэньню дзеляцца на дзьве катэгорыі: а) *вучасткі расчышчаныя з-пад лесу менш 6 год таму назад* і знаходзячыяся ў часовым па ўгавору сельска-гаспадарчым карыстаньні і б) *пахатныя* і *сенажатныя вучасткі,* якія *яшчэ да рэволюцыі арандаваліся сялянамі* і цяцер застаюцца ў іхным карыстаньні.

Вучасткі першай катэгорыі, якія знаходзяцца ў межах лясной дачы, пасьля 6-ці год належаць або аблясеньню, або перадачы лясной варце ў якасьці надзелаў. Калі-ж Лясное Кіраўніцтва прызнае не мэтазгодным пакідаць гэтыя землі ў складзе ляснога фонду, то яно залічвае іх да зямельнага вучастку.

Сельска-гаспадарчыя вучасткі другой катэгорыі, якія заўсёды арандаваліся, зьяўляюцца цяпер землямі працоўнага карыстаньня. Яны без угавораў застаюцца на далейшы час у безтэрміновым карыстаньні іх быўшых арандатараў. Калі лясніцтва будзе ня згодна з гэтым, яно можа зьвярнуцца да акруговага зямельнага аддзелу з хадайніцтвам аб адабраньні гэтых вучасткаў у парадку 21 і 22 арт. Зям.

Кодэксу. Пры гэтым землякарыстацель у замен адабранага вучастку атрымоўвае такі самы вучастак у другім месцы і яму плацяць убыткі, выкліканыя гэтай заменай.

Знача, пахатныя і сенакосныя вучасткі, якія знаходзяцца ў межах лясных дач, цяпер ужо не зьяўляюцца „аброчнымі стацьямі“ Ляснога Кіраўніцтва, як гэта было да рэволюцыі, а прызначаны для правільнага вядзеньня на іх лясной або сялянскай гаспадаркі.

Аўг. Вішнеўскі.

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 41. Ці можна не пачаўшы апрацоўваць атрыманую ў парадку надзяленьня зямлю, здаць яе ў арэнду і паехаць у другое месца на заробкі? (Калінінская Акрземкамісія).

Адказ. Здаваць зямлю ў арэнду могуць толькі часова заняпаўшыя працоўныя гаспадаркі. Затым грамадзяне, не пачаўшыя вядзеньня сельскай гаспадаркі на атрыманай у парадку надзяленьня зямлі і пераходзячыя да іншых заняткаў, ня маюць права здаць зямлю ў арэнду. Пры такой незаконнай арэндзе зямельны орган (сельсавет, райвыканком) або зямельнае аб'еднаньне павінны прад'явіць раённай зямельнай камісіі іск аб адабраньні зямлі, адносна якой зроблен незаконны ўгавор і аб скасаваньні яго, калі ён быў зарэгістраваны ў райвыканкоме, з залічэньнем адабранай зямлі ў запасны фонд.

Пытаньне 42. Каму падсудны зямельныя спрэчкі грамадзян, якія перашлі ў парадку артыкула 107 і 108 Зямельнага Кодэксу на грамадзкую апрацоўку зямлі?

Адказ. Зямельныя спрэчкі грамадзян, якія апрацоўваюць зямлю аб'яднаным парадкам, без перахода ў зямельныя таварствы, разглядаюцца ў першай інстанцыі раённаю зямельнаю камісіяй.

Пытаньне 43. Пры якіх умовах дазваляецца і як афармляецца мена зямлі?

Адказ. Працоўныя землякарыстацелі могуць абменьвацца зямельнымі вучасткамі з мэтаю зьністажэньня празпалосіцы, далёказямельля і інш. Законнай менай лічыцца тая, якая зроблена з дазволу зямельных органаў. Апрача гэтага, замена аднаго вучастку другім можа быць зроблена пры адабраньні зямлі для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб і пры земляўпарадкаваньні, (у арт. 22 і 125 Зям. Кодэксу).

Пытаньне 44. У якіх выпадках сялянская гаспадарка павінна прызнавацца недрабімай?

Адказ. Цяпер спынены разьдзелы, наогул, усіх гаспадарак. Недрабімай-жа гаспадаркай, аб якой гаворыцца ў арт. 82-84 Зям. Код. зьяўляецца такая: а) якая зямельнай камісіяй прызнана недрабімай і б) якая забясьпечана найбольшай нормай, апрача гаспадарак садоваагароднага тыпу.

Пытаньне 45. Ці мае права асоба, уступіўшая ў другі двор з прычыны жаніцьбы ці прыёму, на разьдзел маемасьці без зямлі ў працягу 6 год у двары, з якога гэта асоба вышла?

Адказ. Права на карыстаньне зямлёю і права ўласнасьці на іншую маемасьць двара належыць двару ў складзе ўсіх яго членаў. Затым, асоба якая вышла з складу данага двара, траціць у ім правы на зямлю, і на ўсю іншую агульную маемасьць.

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА І АБАРОНА КРАІНЫ

## Аб вайсковай пропагандзе ў газэтах і часопісях.

Мы выразна на кожным кроку падкрэсьліваем, што праводзім політыку міру, што неадкладнай, непасрэднай задачай дню для нас з'яўляецца будаўніцтва нашай гаспадаркі на соцыялістычным грунце, што мы прымаем усе крокі каб між намі і суседнімі дзяржавамі былі мірныя адносіны.

Аб гэтым добра ведаюць рабочыя і сяляне нашага Саюзу і замежных краёў. Але-ж таксама добра ведаюць працоўныя гушчы, што наш Саюз абложан варожымі да нас дзяржавамі, што нашыя суседзі ныхтуюцца да рашучых боек супроць нас, узмацняюць сваё войска, равялічваюць вайсковую тэхніку і чакаюць толькі, каб вылучыць час, калі яны змогуць наваліцца на нас усім цяжарам узброенай сілы.

Усё гэта прымушае нас зрабіць з нашага боку ўсё неабходнае, каб у свой час, калі на нас будзе напад, уся краіна, як адзін чалавек, выступіла-б *на абарону свае дзяржавы*.

А адсюль пытаньне ваенізацыі працоўных гушчаў стаіць перад намі, як *практычнае* пытаньне па падрыхтоўцы Саюзу да абароны ад нападаў ворагаў, як жыцьцёвае пытаньне па забясьпечваньню мірнага будаўніцтва нашае дзяржавы, як памятка ворагам, што іхнія вайсковыя замеры супроць нас мы сустрэнем сталёвай вайсковай рацьцю ўсіх рабочых і сялян Саюзу.

А адгэтуль, у сваю чаргу, як непасрэдная задача дню стаіць задача агітацыі і пропаганды вайсковых ведаў сярод *шырокіх* працоўных гушчаў, якія павінны ведаць ня толькі аб тым, што нам трэба рабіць на абарону паміж сябе, але пав нны ведаць, што робяць нашы суседзі ў вайсковай галіне супроць нас.

І ў гэтай *неадкладнай* справе ваенізацыі нашы газэты і часопісі могуць і павінны ўзяць на сябе *значную* долю работы.

Вёска, асабліва каманды, політычны і чырвонаармейскі склад, які звольнен з Чырвонай Арміі, пераменьнікі, дапрызыўнікі ня могуць— ня зацікавіцца пытаньнямі вайсковых спраў у нас і ў нашых суседзяў, тыя весткі, што яны атрымліваюць з нашага беларускага друку іх не здавальняюць і нарэшце, мы маем тое, што вёска, мястэчкі, а часам і горад жывуць самымі рознымі весткамі аб вайсковых справах, твораць розныя плёткі—байкі, наводзяць адзін на аднаго жахі аб вайне, усяк па своему дае адзін другому рады што рабіць, як бараніцца і інш.

Нашы газэты і часопісі маюць досыць значнае пашырэньне сярод працоўных і мы можам, мы павінны на іх старонках ад голых месц, выпадковай „хронікі" перасьці да організацыі досыць сталых вайсковых аддзелаў з пэўнай мэтай, задачамі пропаганды і агітацыі за абарону СССР, бо, хаця і патрэбна хроніка з жыцьця, быту Чырвонай Арміі, але-ж гэта далёка ня ўсё тое, што патрэбна каб ставіць,

вырашаць, кіраваць і вучыць вайсковым пытаньням шырокія масы на Беларусі. *І так, што трэба, панашаму, зрабіць:*

*Папершае.* У газэтах і часопісях трэба організаваць пастаяныя вайсковыя аддзелы, якія зьвязаны з вайсковымі часьцямі, штабамі, ОСО, Авіахімам, з вайсковымі выдавецтвамі, мелі бы праграму, сыстэму ў рабоце і сталы матэрыял для друку. Трэба дабіцца рэгулярнага выпуску гэтага аддзелу, трэба шырока скарыстаць матэрыялы вайсковых газэт, часопісяў (*„Красная Зведа“*, *„Красноармеец“*, *„Красноармейская Правда“*).

*Падругое.* У шэрагу вайсковай хронікі бліжэйшых да газэт і часопісяў вайсковых часьцей *пераважна* павінны друкавацца на простай, зразумелай мове, артыкулы па прынцыповых, грунтоўных пытаньнях будаўніцтва Чырвонай Арміі, павінны высьвятляцца чарговыя пытаньні абароны СССР, і ўсе гэтыя пытаньні і задачы павінны быць цесна зьвязаны з тэй непасрэднай працай, якая вядзецца на вёсцы, у мястэчку, горадзе. Вядома, што трэба друкаваць артыкулы такога зьместу, які дапамагаў бы рабочаму і селяніну вылучаць вайсковую справу з тымі сіламі і сродкамі, якія маюцца на месцах іх працы і ўжо зусім ня патрэбен у друку матэрыял, які ня мае непасрэднае адносіны да ваенізацыі шырокіх працоўных мас. За прыклад характару артыкулаў трэба ўзяць пабудову зьместу газэты *„Красная Звезда“*.

*Патрэцяе.* Значнае месца павінна заняць пропаганда хаця-бы элемэнтарных вайсковых ведаў, напрыклад, аб тым, як будуць весьціся будучыя войны, як бараніцца ад налёту арапланаў, ад хэмічных газаў, ад танкаў, высьвятленьне элемэнтарных, тактычных уласьцівасьцяй таго ці іншага роду войск і інш.

*Пачацьвертае.* Высьвятленьне вайсковых падзей нашых бліжэйшых ворагаў, як яны вядуць вайсковую справу, што робіцца ў іх арміі, вайсковая тэхніка замежных армій.

*Папятае.* ОСО і Авіахім з сваімі організацыямі ў горадзе, на вёсцы, у войску, павінны шырока разгарнуць пропаганду цераз вайсковыя аддзелы ў друку аб сваёй працы, ставіць задачы сваім гурткам на вёсцы, кіраваць іх працаю, падлічаць свае дасягненьні, недахопы, высьвятляць цэлы шэраг вайсковых пытаньняў.

*Пашостае.* У нас на Беларусі больш як нідзе, адбываліся вайсковыя падзеі. Грамадзянская вайна, інтэрвэнцыя, барацьба з белапалякамі і бандытызмам, партызанскі рух—усё гэта ведае добра працоўная Беларусь і ва ўсёй гэтай справе ёсьць у нас што ўспомніць, расказаць маладым аб гэроях, партызанскіх падзеях беларускіх рабочых і сялян. Успаміны аб мінулай вайсковай барацьбе, штрыхі аб баях за тую ці іншую мясцовасьць на Беларусі, аб гэроях партызанах, аб тым як білася працоўная Беларусь за Саветы—усё гэта павінна знайсьці сваё месца ў вайсковых аддзелах нашага друку.

*Пасёмае.* Працоўныя масы ня зусім добра ведаюць, а часам і зусім ня ведаюць аб законах вайсковай службы, дэкрэтах улады наконт сем'яў чырвонаармейцаў, палёгках па таму ці іншаму падатку і іншых пытаньняў цесна зьвязаных са службаю ў Чырвонай Арміі. Трэба каб вайсковыя аддзелы тлумачылі гэтыя пытаньні, адказвалі на іх, высьвятлялі іх.

*Павосьмае.* Трэба даць месца ў вайсковых аддзелах друку вайсковай бібліяграфіі, дзе зьмешчваць назвы навейшых вайсковых выданьняў—кніжак, часопісяй якія неабходна ведаць камандзіру, пераменьні-

ку, дапрызыўніку, адпускніку-чырвонаармейцу на вёсцы. Трэба весьці пропаганду вайсковых газэт, кніжак, дапамагать колектыўнай падпісцы на іх.

*Падзевятае.* Шырэй паставіць інформацыю аб быту, жыцьці Чырвонае Арміі, працы вайсковых спартыўных гурткоў на вёсцы, у школах, ВУЗах, аб шэфстве Чырвонай Арміі з працоўнымі.

Вядома, што пералічанымі пытаньнямі няпоўнасьцю вырашаюцца задачы вайсковых аддзелаў нашага друку. Мы толькі застанавіліся, па нашай думцы, на некаторых галоўных пытаньнях. Само жыцьцё, працаўнікі з месц, вайсковых часьцей, вядома, дапоўняць яшчэ многімі пытаньнямі. Толькі трэба гэтую справу зварухнуць, за яе ўзяцца, выразна ўявіць сабе мэты, задачы.

Пры падтрымньні гэтай справы ячэйкамі партыі, ЛКСМ, шырокіх працоўных гушчаў і асабліва пры шчырым непасрэдным удзеле вайсковых працаўнікоў, адказных у першую чаргу, мы задачы вайсковай пропаганды, абароны СССР выканаем.

У нас ёсьць сілы, ёсьць магчымасьці, ёсьць матэрыял на чым працаваць, перад намі адказныя задачы і мы іх можам і павінны выканаць.

**Мікола Арабей.**

---

# Ад рэдакцыі.

*) З наступных №№ „Плуг" адчыняе новы аддзел дзеля высьвятленьня сувязі сельскай гаспадаркі з абаронай краіны: разьвіцьцём хэмічнай прамысловасьці, авіацыі, шляхамі зносін, агульнай машынізацыяй і г. д.

У старай Расіі былі выпадкі, што пры здабываньні кіслот на заводах, сотні пудоў рэштак (забруджаных кіслот) закопвалі ў зямлю, калі можна было іх выкарыстаць на прыгатаваньне супэрфосфату.

Матад хэмікаў Нямеччыны здабываць азотную кісласьць з азоту паветру дапамог абыходзіцца без чылійскай салетры ў сельскае гаспадарцы. Гэта-ж было і аднэй з прычын упартасьці Нямеччыны ў мінулую вайну.

Авіацыя ўжо працуе пры барацьбе з сельска-гаспадарчымі шкоднікамі, рознымі пошасьцямі і г. д.

Цягавая сіла, і некаторыя машыны могуць служыць і сельскай-гаспадарцы, і абароне краіны.

Апрача таго, і сама сельская гаспадарка можа шмат чым прыстасавацца да мэтаў абароны краіны, напрыклад, будаваць агнятрывалую будову, гадаваць спэцыяльны і патрэбны тып коняй і г. д.

Падругое, мы зараз маем шмат такіх організацый, як Авіяхім, якія на старонках „Плуга" могуць выяўляць сваю працу і паказваць яе карысьць для сельскае гаспадаркі.

Усе гэтыя веды для чытачоў „Плуга" і розных нізавых ячэяк будуць вельмі карысны. Блізкіх да гэтай галіны спецыялістых і працаўнікоў рэдакцыя просіць прысылаць свае артыкулы.

---

## С-г. хроніка.

У гэтым годзе ў Калінінскай акрузе „Сьвята ўраджаю“ і адначасова раённыя с.-г. выстаўкі праводзяцца ў верасьні м-цы ў 3 тэрміны:

1. 19-20 верасьня—Мсьціслаўскі і Клімавіцкі раёны;
2. 21-22 верасьня—Хоцімскі раён і
3. 26-27 верасьня—Краснапольскі, Расьнянскі, Мілаславіцкі, Чэрыкаўскі і Бялынкавіцкі раёны.

Прэміі наважана выдаваць за ўвядзеньне шматпалёвых севазваротаў, інтэнсыфікацыю сельскай гаспадаркі як: пасеў канюшыны, лубіну, сэрадэлі, лёну, бульбы, кораньплодаў і сэлекцыйнага збожжа; таксама за добры завадзкі матэрыял; правільны догляд і ўтрыманьне скаціны; за лепшую жывёлу; за культурныя пароды сьвіней; раманаўскія авечкі; за добрыя гатункі і ўраджай капусты, кармовых буракоў, турнэпсу і інш.

Выстаўкі будуць праводзіцца два дні. Прэміі будуць выдавацца выключна натурай: насеньнем, машынамі і прыладамі, с.-г. літаратурай. Разьмер прэміі ад 15 да 3 руб.

У гэтым годзе будзе шырока скарыстана на прэміі с-г. літаратура (невялічкімі бібліотэкамі).

Сродкі для выставак складаюцца з сродкаў раённых каштарысаў на агрономічныя мерапрыемствы і дзяржаўных каштарысаў.

Усяго па акрузе для прэміраваньня будзе скарыстана 3170 руб. (у раёне ад 380 да 250 руб., а ў 1925 г. было ўсяго 1000 руб.).

# Наша сьвята.

*Сцэнічны твор у аднэй дзеі.*

**(А. Дабравольскі).**

## АСОБЫ:

1. СЕРКА — загадчык райземаддзелу . . . . 30 год.
2. АГРОНОМ — . . 27 „
3. СЬЦЯПАН — сябра с.-г. гуртку комсамолец . . . 20 год.
4. ВАСІЛЬ — таксама 19 „
5. СЕРАДА ЯКІМ таксама 20 „
6. МАКАР УЛАДЗЯ — сябра с.-г. гуртку . . . 52 год.
7. ГАРАВЫ ЯЗЭП—сябра с.-г. гуртку. . . . 23 год.
8. ЗЬМІТРА—вяск. хлопец 18 „
9. ІГРУША—селянін 38 „
10. ТЭКЛЯ—сялянка . 68 „
11. ДЗЯК — . . . 45 „
12. СТАРШЫНЯ РВК, сяляне і дзяўчаты

Дзея адбываецца на вуліцы ў сьвята „Дзень Ураджаю“. Клюб. Каля яго лаўка. Направа з-за заслоны, якая ня зусім адчынена, відаць экспонаты выстаўкі, а ўлева праця вуліцы. Часам праходзяць сяляне з экспонатамі.

### Зьява І.

Васіль *(выходзіць з клюбу і глядзіць у бок выстаўкі)*. Як многа ўжо сабралася на выстаўку! І яшчэ ўсё ідуць і ідуць!

### Зьява ІІ.

Той-жа і Зьмітра.

Зьмітра. Здароў Васіль! Чаго, брат, стаіш тут? Пойдзем разам на выстаўку! *(вітаюцца)*.

Васіль. Пашоў-бы, але-ж дзяжурыць трэба.

Зьмітра. Што там дзяжурыць, вось лепей паглядзім выстаўку.

### Зьява ІІІ.

Тыя-ж і Ігруша.

Ігруша *(нясе экспонат — два снапкі жыта і спатыкаецца з Зьмітрам)*. Што ты стаў, як слуп, на дарозе?

Зьмітра. Выбачайце, калі ласка!

Васіль. А вы, дзядзька, ужо запісалі свой экспонат?

Ігруша. Ужо запісаў, яшчэ ўчора. *(Праходзіць)*.

Зьмітра. Ну, дык пойдзем разам?

Васіль. Пачакай трохі, зараз пойдзем.

Зьява IV.

Тыя-ж і Макар.

Макар *(нясе турнэпс і спатыкаецца з Зьмітрам)*. Чаго ты лезеш пад рукі, усё роўна як табе няма месца на вуліцы!

Зьмітра. Прабачайце, дзядзька, ваш такі вялікі турнэпс, што дзе ні стань, вы ўсё роўна зачэпіце.

Макар. Сьмейся, сьмейся, але-ж...

Зьмітра. Дайце, дзядзька, я памагу несьці!

Макар *(адыходзячы)*. Які ты разумны, хацеў чужой працай хваліцца!

Зьмітра. Мне добра было-б перад дзяўчатамі пахваліцца, а вам што?

Макар. Лепей не перашкаджай людзём *(выходзіць)*.

Зьмітра. Пайду і я, бо цябе вельмі доўга чакаць *(выходзіць)*.

Зьява V-я.

Тыя-ж і Сьцяпан.

Сьцяпан. Ну, Васіль, многа ўжо запісана экспанатаў?

Васіль. Усяго запісана сто сорак сем.

Сьцяпан. Можа вось тут на вуліцы паставім стол? Давай вынесем стол і лаўкі з клюбу! *(Выносяць і ставяць на вуліцы)*.

Васіль. Вось і сьпіс усіх экспанатаў!

Зьява VI.

Тыя-ж і сел. Серада з снапом добрага жыта.

Серада. Ці можна, таварышы, запісаць мой экспонат?

Сьцяпан. Калі ласка! Ваша прозьвішча і імя?

Серада. Серада Міхась.

Сьцяпан. З якой вёскі?

Серада. З Дубоўкі.

Сьцяпан. Колькі зямлі ў гаспадарцы і форма землякарыстаньня?

Серада. Чатыры дзесяціны, пасёлак.

Сьцяпан. Які севазварот у гаспадарцы?

Серада. Чатырохпалёвы.

Сьцяпан. Якую плошчу займае жыта?

Серада. Адну дзесяціну.

Сьцяпан. Які сорт?

Серада. Шацкае, раней сеяў пяткускае.

Сьцяпан. Як выраблялася зямля пад гэты ўраджай?

Серада. Я ўгноіў поле пад выку. Калі яна стала красаваць, я скасіў яе на корм, а поле зараз-жа заараў і пасыпаў парашку фосфарыту. Праз чатыры тыдні пасеяў жыта. Фосфарыту пашло 15 пудоў на палавіну дзесяціны.

Сьцяпан. Якая ўраджайнасьць з дзесяціны?

Серада. Сто трыдцаць шэсьць пудоў.

Сьцяпан. А ці ў вас жменька жыта з карэньнямі ёсьць?

Серада. Ёсьць. Вось яна. *(Паказвае)*. Я-ж ведаў, што будуць ураджай пазнаваць па ім і захапіў з сабою.

Сьцяпан. Дык вось, дзядзька, ідзеце на выстаўку і займеце там месца! *(Серада выходзіць)*.

Сьцяпан. Ужо запісалася сто сорак восем! Даволі многа.
Васіль. А мо' многа яшчэ на выстаўцы разьмесьцілася не запісаўшыся?
Сьцяпан. Там не павінны прымаць іх.

Зьява 7-я.
Тыя-ж і Макар.

Макар *(падыходзіць з турнэпсам)*. Калі ласка ўжо і мяне запішэце!
Сьцяпан. Што-ж, дзядзька, так спазьніўся?
Макар. Я ня ведаў, што тут трэба запісацца. Пашоў на выстаўку, а там мне і кажуць запісацца. Вось я прышоў. Дык калі ласка!
Сьцяпан. Ваша прозьвішча і імя я ведаю — Макар Уладзя. Колькі маеце зямлі і якая форма землякарыстаньня?
Макар. Тры дзесяціны—жыву ў вёсцы.
Сьцяпан. Колькі зямлі засеяна было турнэпсам?
Макар. Сто квадратовых сажняў.
Сьцяпан. Як выраблялася зямля пад турнэпс і якое ўгнаеньне вазілі?
Макар. На зіму гэты кавалак зямлі быў завораны з паловай угнаеньня. Вясною паложана другая палова гною і зноў зaараў на 4 вяршкі глыбіні. Пасеяў 9-га траўня.
Сьцяпан. Які ўраджай з дзесяціны ў пудох і з якога году разводзіцца?
Макар. Ураджай 2 тысячы пудоў з дзесяціны, а пачаў я разводзіць турнэпс ужо другі год.
Сьцяпан. Вам цяжка і падняць такі цяжар!
Макар *(сьмяецца)*. Нічога!
Сьцяпан. Цяпер можаце займаць месца на выстаўцы!
Макар. Можа мне пісульку дасьце?
Сьцяпан. Не, дзядзька, прымуць і бяз пісулькі.

Зьява 8-я.
Тыя-ж і Серка з агрономам.

Серка. Ці здаравенькі хлопцы! *(Вітаюцца)*. Ну, цяпер у зборы ўвесь выставачны камітэт і прадстаўнікі ад с.-г. гурткоў раёну. Думаю, што мы можам распачаць пасяджэньне. *(Усе садзяцца)*. Нам трэба вырашыць, за што мы будзем даваць прэміі ў гэтым годзе. Хто выкажацца?
Агроном. Дазвольце мне! У леташнім годзе мы давалі прэміі за пасевы лубіну, канюшыны, вікі, сэрадэлі. Сёлета мы ведаем, што ўсё гэта амаль кожны гаспадар сее і прэміі за гэта ня трэба даваць. У гэтым годзе мы агітавалі, каб гаспадары правільна кармілі кароў, каб найбольш сеялі караньплоды, каб ужывалі мінэральнае ўгнаеньне і каб асушалі балоты. Вось за ўсё гэта мы і павінны прэміраваць сялян.
Серка. Хто яшчэ хоча выказацца?
Сьцяпан. Трэба згадзіцца з агрономам!
Серка. Дык усе згодны?
Усе. Згодны!
Серка. Так і запішам: „даваць прэміі за правільнае кармленьне кароў, за ўжываньне мінэральнага ўгнаеньня, за разьвядзеньне караньплодаў і асушку балот“.

Агроном. А зараз мы павінны пайсьці на выстаўку, агледзіць экспонаты і вырашыць, каму даваць прэміі.

Усе. Згодны!

Серка. Дык пойдзем! *(Ідуць усе, апрача Васіля).*

Зьява 9-ая.

Васіль і Зьмітра.

Зьмітра. Ты, Васілька, сядзішь тут і ня бачыш, што на выстаўцы робіцца! У дваццаць разоў болей экспонатаў, чым летась!

Васіль. Вельмі многа?

Зьмітра. Уся плошча занята людзьмі! Розныя, розныя экспонаты, ды такія, што міла глядзець!

Васіль. Пасьля адчыненьня выстаўкі і я пагляджу.

Зьява 10-я.

Тыя-ж і Тэкля, якая ідзе з мяшэчкам жыта ў царкву.

Васіль. А вы што, цётка? Людзі на выстаўку, а вы з выстаўкі.

Зьмітра. А-а-а! Цётка, мусіць, да папа на выстаўку ідзе! *(Сьмяюцца).*

Тэкля. Нічога з вас, дзеткі, ня будзе. Расьціцё на лес гледзючы. *(Праходзіць).*

Васіль. У нашай вёсцы ўжо мала засталося такіх Тэкляў. Ня больш, як тры-чатыры. Вось яны і ходзяць да папа на выстаўку. (*Сьмяюцца*).

Зьява 11-ая.

Тыя-ж і дзяк.

Дзяк *(праходзячы)* Ого-о-о! Нешта ўжо моладзь пра сьвятых пачынае разважаць? (*Застанаўліваецца*).

Васіль. Трошкі не дачулі! Я кажу, што старая з мяшэчкам у сьвятыя палезла!

Дзяк. А што вы ні кажыце, а старые звычаі лепшыя! Сабраўшы ўраджай мо‘ частку трэба і прапіць, каб не баяцца сухой пагоды.

Васіль. Ха-ха-ха! Гэта ўжо ваш стары спосаб. А наш—чытай сельска-гаспадарчыя кніжкі і працуй!

Дзяк. Што-ж і мне будзеш раіць чытаць?

Васіль. Чаму не! Пачытаць журнал ці газэту і вам не пашкодзіць!

Дзяк. Я ня столькі кніг прачытаў, і то з мяне дрэнны гаспадар!

Зьмітра. Ха-ха-ха! Бо вы чытаеце ня тое, што трэба! А вось паспрабуйце выпісаць нашы, напрыклад, „Плуг“ ці „Малады Араты“ і вы паправіце сваю гаспадарку!

Дзяк. А ведаеце, што над гэтым я думаў! Дапамажэце мне выпісаць газэту і іншых кніжок па гаспадарцы і я кіну сваё дзякоўства!

Васіль. Чаму не! Дапаможам!

Дзяк. Ну што-ж, граху тут няма, а калі і ёсьць, дык грэх у мех, палкаю па мяху—ня будзе і граху! Бывайце здаравенькі! *(Ідзе).*

Васіль. Глядзі, Зьмітра, мо‘ і гаспадар яшчэ будзе! Ха-ха-ха!

### Зьява XII.

Тыя-ж і селянін.

Селянін *(нясучы экспонат зусім дрэннага ячменю)*. Хлопчыкі, скажэце, дзе-ж тут можна запісацца?

Зьмітра. Ха-ха-ха! Спазьніўся, дзядзька!

Селянін. Дык што-ж мне рабіць? Я-ж за трыццаць вёрст сюды ехаў!

Васіль. Бяжы вось там, на выстаўцы, ёсьць выставачны камітэт. Зьвярніся да яго. Ён запіша і адразу агледзіць твой экспонат на прэмію! Зьмітра, пашукай яму Сьцяпана ці каго!

Селянін. Вельмі дзякую. *(Бяжыць, дарогаю валіцца)*.

### Зьява XIII.

Тыя-ж і дзяўчаты.

Дзяўчаты сьпяваючы праходзяць у бок выстаўкі. У час песьняў затрымліваюцца на некаторы час на сцэне. Хлопцы плешчуць у далоні.

### Зьява XIV.

Заслона адчыняецца больш, відаць трыбуна. Тыя-ж і выставачны камітэт: Серка, агроном, Сьцяпан і старшыня РВК, сяляне.

Сташыня РВК. Таварышы! Раённую с.-г. выстаўку абвяшчаю адчыненай. Ад імя РВК вітаю, таварышы, вас з сягодняшнім днём, днём „Сьвята ўраджаю“! Зараз мы падлічваем усе свае дасягненьні ў сельскай гаспадарцы і будзем замацоўваць іх у далейшым; будзем далей паляпшаць наша жыцьцё. Рабоча-сялянская ўлада дае нам магчымасьць паляпшаць гаспадарку: агрономы, кніжкі, газэты, насеньне, машыны—усё гэта плыве ў нашу вёску. Мы гэтым можам карыстацца і паднімаць ураджай! Лішні пуд, што дасьць кожная дзесяціна ва ўсіх гаспадароў, складзе мільёны пудоў! Дык будзем вывучаць нашы дасягненьні і дзяліцца вопытамі. Няхай жыве „Сьвята ўраджаю“! *(Усе плешчуць у далоні)*.

Старшыня РВК. Просіць слова раённы агроном. Таварыш агроном, калі ласка!

Агроном. Вітаю вас, таварышы, з „Сьвятам ураджаю“, сьвятам сельска-гаспадарчай культуры і працы! На выстаўцы, як у люстэрцы, вы ўбачыце сельскую гаспадарку нашага раёну. Тут на выстаўцы лепшыя гаспадары раёну раскажуць, як яны дасягнулі такіх вынікаў. Усе ўважліва аглядайце і вывучайце, а разышоўшыся па хатах запісвайцеся ў с.-г. гурткі і там вучэцеся далей, як добра гаспадарыць! Няхай жыве наша сьвята „Дзень ураджаю“! *(Воплескі)*.

Серка. Цяпер, таварышы, выставачны камітэт працягвае сваю працу. Пасьля рэгістрацыі ўсіх экспанатаў, іх аглядзела экспэртная камісія і за лепшыя прысудзіла прэміі. Агалашаю, каму дадзены прэміі: За правільнае кармленьне каровы і за добрыя вынікі ад гэтага кармленьня грамадзяніну Язэпу Гаравому даецца першая прэмія—*сячкарня*.

Усе. Просім сюды Гаравога! *(Ён выходзіць, воплескі)*.

Агроном *(да Гаравога)*. Можа вы нам раскажаце, як кармілі сваю карову?

Гаравы. Калі наш сельска-гаспадарчы гурток даручыў мне зрабіць досьлед правільнага кармленьня каровы, дык бацька мой сьпяр-

ша сьмяяўся, кажучы, што ўсё гэта глупства. Але-ж я на гэта не глядзеў і ўзяўся за ачыстку хлева: зрабіў яго чыстым, цёплым і сьветлым! Далей я зважыў карову. Аказалася, што яна важыла 27 пуд. Стаў карміць яе па дацкаму спосабу—даваў па адной кармавой адзінцы на кожныя 3 пуды жывой вагі і па адной адзінцы на кожныя 3 фунты малака. Значыць, я стаў даваць па 12 адзінак у дзень, бо яна давала ўсяго 9 фун. малака. Калі карова стала прыбаўляць малака, дык і корму ёй стаў прыбаўляць. Скажу, што праз год гэта самая карова на трэцім месяцы пасьля ацёлу дае ўжо 32 ф. малака ў дзень.

Серка. Можа ў каго пытаньні ёсьць?

Селянін. Што гэта за адзінка?

Гаравы. Корм у залежнасьці ад яго спажыўнасьці і страўнасьці лічаць кармовымі адзінкамі. Напрыклад, 3 фун. мурожнага сена—кармовая адзінка; 1 ф. макухі—кармовая адзінка; 6 фун. яравой саломы—кармовая адзінка.

Серка. Болей пытаньняў няма?

Усе. Няма!

Серка *(Гаравому)*. Па гэтай картцы атрымаеце на складзе сячкарню. *(Падае картку)*.

Гаравы. Дзякую! *(Выходзіць, узяўшы картку)*.

Серка. За асушэньне балота, за карыстаньне торфам, як угнаеньнем і за выраб з балота мурожнай сенажаці грамадзяніну Янку Снушы даецца другая прэмія—*барана-пружыноўка*.

Усе. Сюды Снушу! *(Снуша выходзіць)*.

Серка. Раскажэце, як гэта вы асушылі балота.

Снуша. Доўга мне гэта балота мазоліла вочы. Абраў я час, выцерабіў яго і пачаў капаць канаву. Працы хапала. Некалькі м сяцаў працаваў. Але ўсё-ж ваду спусьціў і стала суха. Прачытаў я ў „Плузе“, што торфам можна ўгнойваць зямлю. Давай і я цягаць яго на подсьціл скаціне. Пасьля з хлева торф з гноем вывез пад жыта. Як бачылі, жыта вырасла, як лаза. Дзесяціна дала 142 пуд. зярна. Апрача гэтага яшчэ і сенажаць вельмі добрую маю.

Серка. У каго ёсьць яшчэ пытаньні?

Агроном. У вас зямля ў адным кавалку?

Снуша. У адным!

Серка *(Снушу)*. Вось па гэтай картцы ў складзе атрымаеце барану-пружыноўку!

Снуша. Дзякую! *(Выходзіць)*.

Серка. За найбольшы ўраджай турнэпсу і правільнае ўжываньне яго пры кармленьні кароў, грамадзяніну Уладзю Макару даецца прэмія—плуг.

Усе. Сюды Макара! *(Макар выходзіць)*.

Агроном. Раскажэце нам пра турнэпс!

Усе. Просім, просім!

Макар. Вельмі ўжо зацікавіў мяне гэты турнэпс: станеш чытаць кніжку ці газэту—пішуць пра турнэпс; пойдзеш на заняткі ў с.-г. гурток—і тут турнэпс. Давай, думаю, пасею і я гэты турнэпс! Першы раз пасеяў у гародзе. Добра парос! Сёлета я ўжо на полі пасеяў 100 квадратовых сажняў. Парос таксама добра, аж страх глядзець!

Селянін. Як ты глебу рыхтаваў пад турнэпс?

Макар. З восені палажыў палову гною і заараў; другую палову гною па разьліку 20 фун. на адзін квадратовы сажань палажыў вясною і зноў заараў. Пасеяў 9 траўня. Затым я палоў і пульхніў зямлю.

Усяго я сабраў з гэтых 100 квадр. сажняў восемдзесят восем пудоў. Раю ўсім сеяць яго, бо гэта вельмі добры корм для скаціны.

Серка. Усё? Пытаньняў болей няма?

Усе. Няма!

Серка. Атрымаеце па гэтай картцы прэмію—плуг. *(Падае картку).*

Макар. Шчыра дзякую! (*Выходзіць, узяўшы картку*).

Серка. Грамадзяніну Якіму Серадзе за ўжываньне мінэральнага ўгнаеньня пад жыта, даецца прэмія—сельска-гаспадарчая бібліотэчка.

Усе. Просім сюды Сераду! *(Серада выходзіць).*

Агроном. Цікава паслухаць, як вы ўжывалі мінэральнае ўгнаеньне?

Серада. Наш с.-г. гурток даручыў мне зрабіць досьлед з фосфарытам пад жыта. Фосфарыту я купіў у Менску (Слуцку, Бабруйску і г. д.) на с.-г. складзе, 15 пудоў. На тым полі, дзе думаў сеяць жыта, расла выка, пад якую я вясной палажыў гной. Як выка стала красаваць, дык я яе скасіў на корм, а затым узараў поле і высеяў 15 пуд. фосфарыту на $^1/_2$ дзес. Праз месяц пасеяў жыта. Рунь была вельмі добрая. Вясною я жыта паскародзіў. Калі змалаціўшы зважыў ураджай, то гэта поўдзесяціна, якая ўперад давала 45 пуд., цяпер дала мне 68 пуд. За 15 пудоў фосфарыту я атрымаў 23 пуды жыта!

Серка. У каго ёсьць пытаньні?

Селянін. Колькі каштуе 1 пуд. фосфарыту?

Серада. Сорак пяць капеяк!

Серка. Няма болей пытаньняў?

Усе. Няма!

Серка. Вось ваша прэмія—сельска-гаспадарчая бібліотэчка. (*Дае*).

Серада. Дзякую! *(Узяўшы, выходзіць).*

Серка. У каго ёсьць пытаньні?

Усе. Няма!

Серка. Паседжаньне выставачнай камісіі лічу зачыненым. Цяпер пойдзем яшчэ раз аглядзець выстаўку!

Усе. Пойдзем! Няхай жыве «Сьвята ўраджаю»!

*(Заслона).*

## Паштовая скрынка.

*Г. Еўстарчыку.* Артыкул „Роля і значэньне шляпачных грыбоў у лясной гаспадарцы“ пераданы намі рэдакцыі часопісі „Наш Край“, якая выдаецца Інбелкультам.

*А. Шохару.* Артыкул „Досьлед і практыка пры культуры балот“ пераданы рэдакцыі часопісі „Наш Край“.

**Выданьне Наркамзема.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*

# З Ь М Е С Т.



---

1-я дзярж. друк. Зак. № 4021--6.000. Галоўлітбел № 20729.